Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4710) 22 сакавіка 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі, старшыня Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна ордэнам Дружбы народаў — за значны асабісты ўнёсак у развіццё інтэграцыйнага супрацоўніцтва і ўмацаванне сяброўскіх адносін паміж Беларуссю і Расіяй.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з днём нараджэння. «Увесь свой багаты духоўны вопыт, веды і сілы Вы аддаяце служэнню Богу і людзям. Неаспрэчны Ваш асабісты ўнёсак у справу ўмацавання Праваслаўя на беларускай зямлі, захавання і прымнажэння самабытнай гісторыка-культурнай спадчыны нашага народа», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Дырэктары нацыянальных мастацкіх музеяў Беларусі і Малдовы Уладзімір Пракапцоў і Тудар Збырня абмеркавалі шляхі далейшага супрацоўніцтва ў межах падпісанага раней пагаднення. Так, у Кішынёве плануецца арганізаваць выстаўку беларускіх мастакоў, якія жывуць у Беларусі і Малдове. Беларускі бок гатовы падрыхтаваць аналагічную выстаўку малдаўскіх мастакоў у Мінску.

✔ Сёння ў Гомелі распачаўся VIII Міжнародны фестываль дзіцячых, маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў Беларусі, Расіі і Украіны «Жывая вада дружбы», удзел у якім бяруць больш як 20 дэлегацый. Упершыню ў межах форуму пройдзе конкурс даследчых і праектных работ «ЮНЕСКА: Адукацыя. Навука. Культура», на які пададзена больш як 30 работ.

✔ Анкетаванне па пытаннях магчымых змен у Кодэксе аб адукацыі плануецца правесці ў Беларусі. Удзельнікамі яго будуць кіраўнікі ўстаноў адукацыі, выкладчыкі, выхавальнікі, бацькі.

✔ Помнік Уладзіміру Мулявіну плануецца ўсталяваць у цэнтры Екацярынбурга (Расія) каля кінаканцэртнага тэатра «Космас». У бліжэйшы час будзе праведзены конкурс сярод беларускіх скульптараў на стварэнне эскіза помніка. Таксама адкрыты дабрачынны рахунак, на які можна перавесці сродкі.

✔ З 26 па 31 сакавіка ў Краснадары (Расія) будзе праходзіць фестываль беларускага кіно. Яго праграма складаецца з 20 фільмаў розных жанраў: гістарычнае, мастацкае, анімацыйнае і дакументальнае кіно.

✔ Беларускі саюз мастакоў прапанаваў надаць Палацу мастацтва ў Мінску імя Віталя Цвіркі. Ідэя была выказана намеснікам старшыні Саюза мастакоў Рыгорам Сітніцам на адкрыцці выстаўкі «Подых Сусвету», прымеркаванай да 100-годдзя з дня нараджэння творцы.

✔ Пачаўся прыём заявак на ўдзел у рэспубліканскім дзіцячым конкурсе «Песня для Еўрабачання». Падрабязная інфармацыя пра ўмовы і тэрміны конкурсу — на сайце Белтэлерадыёкампаніі.

Падрыхтавала
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**



9 Сусветную літаратуру прыдумалі перакладчыкі?!



13 Шчаўкунок... Старая казка — новая пастаноўка



15 Незаклятыя скарбы берасцейскага ювеліра

# ПЛАНЕТА ПАЭТАЎ



*Алесь Квяткоўскі, 2009.*

*Яўгенія Янішчыц*

## *Паэт*

*Ты залатую мрою не дагоніш,*
*А толькі словам немату загоіш*
*І выйдзеш зноў — без слова і пяра...*
*І ты душу сасмяглую напоіш*
*Сівой расою з роднага двара.*
*Усё, што знаў, з маленства ты запомніш*
*І калыханкай ўсё, што меў, напоўніш,*
*Нібы Купала, Пушкін ці Саят...*
*Ты ад расколу свет не абароніш,*
*Дык дзякуй хоць за тое, што аброніш*
*Шчымлівы і распытлівы пагляд.*

*Ты пасланцоў увагай удастоіш*
*І сілы непасільныя падвоіш,*
*Каб усміхацца і не ўпасці — ніц!*
*Правалішся, васкрэснеш і прымроіш*
*Глыток вясны з павысахлых расніц.*
*Старынны ямб нанова перакроіш,*
*Знябудзеш тлум, забудзеш новы пройгрыш,*
*Каб дачакацца лепшае з часін.*
*Ўзляціш да зор, а ямы не абойдзеш,*
*Здалееш страх, а ў шклянцы буру знойдзеш, —*
*Маленькі бог зямлі і вечны сын!*

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Чытачы, творцы, даследчыкі

Саюз пісьменнікаў Беларусі і часопіс «Роднае слова» падвялі вынікі II Рэспубліканскага конкурсу навукова-даследчых і творчых работ вучняў.

**Зоя ПАДЛІПСКАЯ**

Конкурс праходзіў цягам мінулага года і быў прысвечаны юбілеям класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, а таксама Году кнігі.

Стараючыся не абмяжоўваць творчасць, арганізатары прапанавалі некалькі намінацый: «Да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа», «Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы», «Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка», «Творчасць сучаснага пісьменніка», «2012 — Год кнігі» і «Духоўная спадчына». У выніку былі прадстаўлены даследаванні творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Андрэя Мрыя, Івана Мележа, Ніла Гілевіча, Міколы Арахоўскага, Рыгора Барадуліна, Ніны Мацяш, Генадзя Пашкова, Міхася Пазнякова, Анатоля Зэкава, Аляксандра Зайкі і Валерыя Гапеева. Да таго ж, многія ўдзельнікі дасылалі нізкі вершаў, мініяцюры, апавяданні і эсэ.

Сто вучняў-пераможцаў і іх настаўнікі, якія былі запрошаны на ўрачыстасць у Дом літаратара, атрымалі дыпломы, граматы, падзякі



*Пасля падвядзення вынікаў конкурсу.*

і кнігі ў падарунак. Віншавалі іх першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, пісьменнік Іван Саверчанка, дырэктар Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Славамір Антановіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» Марыя Кныш і члены рэдкалегіі часопіса Ларыса Сагановіч і Наталля Шапран.

Асобна за актыўны ўдзел у конкурсе граматай СПБ быў адзначаны аддзел адукацыі Асіповіцкага райвыканкама. У конкурсе ўдзел узялі вучні з усіх рэгіёнаў Беларусі, што сведчыць пра ўвагу моладзі да роднай мовы і літаратуры, увогуле да чытання, цікавасць да творчасці класікаў і сучаснікаў, занепакоенасць захаваннем духоўнай спадчыны.

# І дзверы — насцеж

Заўтра, 23 сакавіка, у Белдзяржуніверсітэце — Дзень адчыненых дзвярэй. У краіне стартуе прыёмная кампанія-2013.

**Ірына ТУЛУПАВА**

Трэці год запар у сакавіку менавіта з гэтай нагоды рэктар Белдзяржуніверсітэта Сяргей Абламейка праводзіць прэс-канферэнцыю. Імпрэза ў габеленавай зале рэктарата ў многім нагадвае сустрэчу выпускнікоў: шматлікія журналісты, як правіла, вучыліся ў старэйшай ВНУ краіны. Белдзяржуніверсітэт высока трымае адукацыйны ўзровень: з году ў год у міжнародным рэйтынгу універсітэтаў БДУ ўзнімаецца на некалькі прыступак вышэй. Як зазначыў Сяргей Абламейка, і ў мінулым 2012 годзе ВНУ дынамічна развівалася. Прычым, няўхільна рос экспарт адукацыйных і навукова-тэхнічных паслуг. Да слова: у параўнанні з 2008 годам гэты экспарт павялічыўся ўтрая. Зразумела, што адукацыйныя паслугі — гэта навучанне ў нас замежных студэнтаў. Іх цяпер у БДУ 2 300 — прыкладна 12 працэнтаў ад усёй студэнцкай грамады: добры паказчык нават па міжнародных стандартах.

У навучальным працэсе БДУ пазначылася некалькі тэндэнцый. Так, калі колькасць студэнтаў з гадамі няўхільна расла, то цяпер яна стабілізавалася. У многім — з-за таго, што выпуск у школах змяншаецца. А ён, у сваю чаргу, абумоўлены дэмаграфічным спадам, які назіраўся ў пачатку 1990-х гг.

Другая тэндэнцыя: удалося спыніць падзенне паспяховасці. На першым курсе стала значна менш тых, хто атрымаў тры нездавальняючыя адзнакі (што азначае аўтаматычнае адлічэнне): прыходзяць падрыхтаваныя абітурыенты.

Як стаць студэнтам БДУ, можна будзе даведацца якраз 23 сакавіка. Зрэшты, на Дні адчыненых дзвярэй плануюцца розныя мерапрыемствы, цікава будзе пачаставацца нават кашай ад рэктара альбо сфатаграфавацца з ім.

# Насустрач вясне

Сталічная публічная бібліятэка № 5 знаходзіцца на вуліцы Казлова, 2. Непадалёк — Дом літаратара, офісы часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Вожык», газеты «Літаратура і мастацтва». Побач — «Кнігарня пісьменніка». Таму творчыя сустрэчы ў адмысловым «літаратурным квартале» — справа заканамерная. Зусім нядаўна ў бібліятэцы прайшла вечарына «Вясна. Каханне. Натхненне».

**Рыта СТАХ**

Імпрэзу супольна з кніжніцай арганізавала Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паводле шчырага прызнання вядучага сустрэчы пісьменніка Міхася Пазнякова, яна сталася «днём пакланення Жанчыне, Маці, Каханай». Зразумела, у кожнага мужчыны ёсць сваё непаўторнае ўспрыманне гэтых вобразаў. Але слова найперш было перададзена запрошаным на імпрэзу жанчынам. Свае вершы чытачам прадставілі Святлана Яўсеева, Ірына Тулупава, Ала Чорная, Яна Явіч, Вольга Норына, Іна Фралова. Трапныя характарыстыкі-заўвагі да творчасці кожнай з удзельніц Міхась Паўлавіч знаходзіў у напісаных імі радках. Насамрэч, сапраўдная вясна, высокае каханне пераходзяць у высокую паэзію. Для кагосьці каханне — лірычная мудрасць, але ж побач з ім і варажба, дзе пачуцці замешаны на таямніцах жаноцкасці, і кветкі — як эліксір жыцця. Дарэчы, у бібліятэцы ў гэты час была разгорнута мастацкая выстаўка «Магія кветак».

У гонар жанчын спявалі паэт, празаік і бард Дзмітрый Пятровіч, пісьменнік, доктар юрыдычных навук Сяргей Трахімёнак. На пачатку сустрэчы прагучала канцэртная п'еса Уладзіміра Кур'яна на тэму беларускай народнай песні «Ой, не кувай, зязюленька, рана» (яе выканалі Алена Дзегцярова і Таццяна Краснабаева), а таксама «Румба» Дзітэра Крэйдэра ў выкананні ансамбля струнных інструментаў Музычнай школы № 10 імя Я. Глебава.

# Уганаравалі землякі

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

У Мар'інай Горцы прайшоў творчы вечар члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, ветэрана педагагічнай справы Браніслава Зубкоўскага. Нагодай стала 75-годдзе з дня нараджэння літаратара, краязнаўца, актыўнага аўтара літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў. Пухавіцкі райвыканкам узнагародзіў юбіляра ганаровай граматай. Свае віншаванні Браніславу Аляксандравічу выказалі работнікі аддзелаў культуры і адукацыі Пухавіцкага райвыканкама, раённай бібліятэкі, газеты «Пухавіцкія навіны». Павіншаваць юбіляра прыехалі намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Смалянка, старшыня секцыі дзіцячай літаратуры СПБ, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Уладзімір Мазго.

Варта зазначыць, што ў апошнія гады Браніслаў Аляксандравіч асабліва дбайна працуе ў галіне дзіцячай літаратуры. Выйшлі кнігі апавяданняў «Чаму Загібелька лепш Парыжа», «Сцяжынкамі Якуба Коласа». Здадзены ў Выдавецкі дом «Звязда» рукапіс новай кнігі. Усе гэтыя творы маюць пад сабой дакументальную аснову. Сюжэтамі з'яўляюцца эпізоды жыцця Якуба Коласа на Пухавіччыне. Многія з апавяданняў пра народнага песняра прайшлі своеасаблівую апрабацыю ў юнага чытача. Браніслаў Зубкоўскі — часты госць у школах і бібліятэках Пухавіччыны.

# Запавет Шаўчэнкі

**Алена ЮДЗІНА**

Украінцы сталіцы адзначылі чарговыя ўгодкі з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі музычна-паэтычнай вечарынай «Сыны зямлі беларускай — сябры Т. Шаўчэнкі», якая адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.

На адкрыцці вечарыны ад імя Пасольства Украіны ў Беларусі з прывітальным словам да ўдзельнікаў і гасцей звярнуўся саветнік Пасольства Васіль Бондар. Выступілі таксама Ала Дражына, вядучы навуковы супрацоўнік музея, Галіна Калюжная, старшыня аб'яднання «Запавет», і Павел Навойчык, намеснік дэкана філалагічнага факультэта БДУ. Яны гаварылі пра ўнёсак паэта ў літаратуру Украіны, праводзілі паралелі з лёсамі і творчасцю беларускіх паэтаў Купалы і Коласа.

Дрэва паэзіі Тараса Шаўчэнкі вырасла на нацыянальнай глебе. Аднак яго галіны раскінуліся на ўсе кантыненты, таму што яно агульначалавечае. Творы паэта перакладзены на дзясяткі моў, па-беларуску іх пераўвасаблялі Янка Купала, Якуб Колас ды іншыя творцы.

Для ўкраінцаў паэтычнае слова Т. Шаўчэнкі мае асаблівае значэнне, таму што аб'ядноўвае іх — мовай, культурай, мастацтвам, гісторыяй, традыцыямі. Памяць пра творцу шануе і беларускі народ: у многіх гарадах імем паэта названы вуліцы, у сталіцы ёсць помнік Т. Шаўчэнку, бюсты ў абласных цэнтрах. Мінскім аб'яднаннем украінцаў «Запавет» арганізоўваюцца конкурсы чытальнікаў, для дзяцей — конкурсы малюнкаў.

# «Браму скарбаў сваіх адчыняем»

**Алеся АРЫЦКАЯ**



IX адкрыты абласны фестываль дзіцячай тэатральнай творчасці «Чароўны куфэрак» распачнецца 28 сакавіка ў канцэртных залах Любанскай дзіцячай школы мастацтваў, Палаца культуры в. Сарачы і Любанскага раённага цэнтра культуры.

Фестываль «Чароўны куфэрак», які ладзіцца раз на два гады, існуе каля 17 год. Яшчэ ў 1980-х маладыя спецыялісты — выпускнікі Беларускага дзяржаўнага інстытута культуры і мастацтваў — арганізавалі ў Любані калектыў «Летуценнікі». Атрымаўшы званне «ўзорны», вырашылі не спыняцца на дасягнутым, а зладзіць невялічкі фестываль, запрасіўшы драматычныя і лялечныя калектывы са Слуцка, Салігорска і Мінска. У 1987 годзе адбыўся першы «Чароўны куфэрак». Такая назва была выбрана нездарма, бо менавіта ў куфэрку нашыя продкі захоўвалі самыя каштоўныя рэчы. Такім чынам і арганізатары фестывалю імкнуцца захаваць нацыянальныя каштоўнасці.

Паступова «Чароўны куфэрак» набіраў моц і ў 1999 годзе набыў статус абласнога. З самага пачатку за аснову рэпертуару была ўзята беларуская літаратура, драматургія, паэзія — таму кожны фестываль прысвечаны пэўнай асобе ці падзеі, якая з'яўляецца вызначальнай. Напрыклад, мінулы «Чароўны куфэрак» праходзіў пад знакам М. Багдановіча. Сёлетні будзе «асвечаны» зоркай М. Гарэцкага, менавіта з яго твораў і быў узяты своеасаблівы эпіграф да фестывалю «Браму скарбаў сваіх адчыняем».

— Пераемнасць традыцый — адна з характэрных рыс «Чароўнага куфэрка», — распавёў арганізатар і нязменны дырэктар фестывалю, начальнік аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васіль Каткавец. — Пры гэтым мы імкнёмся зрабіць цікавай палітру, якая адлюстроўвае розныя кірункі беларускай драматургіі, адкрывае новыя грані дзіцячай творчасці, яднае класіку і сучаснасць. У кожным са спектакляў — пошук шляху да вечных каштоўнасцей: любові, веры, надзеі, кахання. Увазе гледача будзе прадстаўлены Караткевічаў «Чортаў скарб» ад тэатра «Мікося» з п. Ратамка, дзіцячая класіка «Прыгоды трох парасят» паводле п'есы Н. Мацяш ад лялечнага тэатра «Сюрпрыз» з г. Беразіно, «Жыла-была Ёжка» ад музычнага тэатра «Залаты ключык» з Мар'інай Горкі і інш. На кожны фестываль мы запрашаем сяброў з замежжа. Гэтым разам чакаем узорна-паказальны тэатр «Сарванцы» з Харкава, які прывязе музычную варыяцыю на паэму А. Пушкіна «Руслан і Людміла». Таксама будзе прадстаўлена і дзіцячая кінашкола «Сінема» з Мінска, адбудзецца прагляд двух фільмаў — «Калі пойдзе снег» і «На вуліцы». Зразумела, дзеці кожны раз вельмі чакаюць фестываль. Яно і не дзіва: тут — новыя сябры, нават каханне. Мерапрыемствы — творчы паварот у іх жыцці. Некаторыя з аматараў вырастаюць у прафесійных акцёраў. Напрыклад, М. Брагінец, вядучы акцёр РТБД, — былы «летуценнік». А што фестываль праходзіць не ў сталіцы... Так, у правінцыі чалавек не мае такіх магчымасцей, як у вялікім горадзе, але тут ёсць душа, дзякуючы якой пры любых абставінах выжыве культура.

Літабсягі

# Заўсёды маладыя

**Таццяна БАРАДУЛЯ**

Нагодай для літаратурнай сустрэчы ў музеі Максіма Багдановіча стаў 60-гадовы юбілей часопіса «Маладосць». Размова, якую пачала галоўны рэдактар Святлана Дзянісава расповедам пра гісторыю выдання і сваіх папярэднікаў, паступова скіравалася да асобы Максіма Багдановіча. Што і не дзіўна: загадчык аддзела крытыкі «Маладосці» Ціхан Чарнякевіч з'яўляецца ўкладальнікам энцыклапедыі «Максім Багдановіч». І ў сваім выступленні ён засяродзіў увагу прысутных на даследаваннях жыцця і творчасці Максіма Багдановіча, якія ўпершыню былі надрукаваныя ў часопісе. Гучалі імёны Ніны Ватацы, Алеся Бачылы, Алега Лойкі, Казіміра Камейшы. Было цікава паназіраць, як змяняўся часопіс за час свайго існавання, як на яго старонках асвятлялася асоба Максіма Багдановіча.

Адным з першых даследаваць геній Максіма пачаў Алесь Бачыла, юбілей з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета. Ён адшукаў шматлікія дакументы і матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, вёў перапіску з яго сваякамі. У 1970 годзе стварыў лібрэта оперы «Зорка Венера», у 1971-м — сцэнарый дакументальнага фільма «Цярновы шлях паэта», у 1971 — 1972 гг. напісаў паэму «Хмары над бухтай», а ў 1983-м выдаў свае даследаванні асобнай кнігай «Дарогамі Максіма Багдановіча». Таксама варта згадаць, што ў 1972 г. Алесь Бачыла напісаў ліст у ЦК КП Беларусі пра неабходнасць адкрыцця музея М. Багдановіча і прывёў спіс людзей, блізка знаёмых з паэтам, да якіх варта было б звярнуцца па дапамогу ў стварэнні фондаў і запісе ўспамінаў.


Выступае Генрых Далідовіч.

Цяжка знайсці сярод беларускіх літаратараў паэта, а тым больш паэтку, што не прысвячалі б вершаў Максіму Багдановічу. Наступная ўдзельніца імпрэзы, Таццяна Барысюк, не была выключэннем. Музычны гурт «Нельга забыць» выканаў песні на словы айчыннага генія. Яго лідар, загадчык філіяла музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка» Міхась Бараноўскі, з'яўляецца аўтарам музыкі да ўсяго рэпертуару гурта. І зусім дэтэктыўную гісторыю пра пошук невядомага санета Максіма Багдановіча распавёў Юрась Пацюпа.

Колішні галоўны рэдактар «Маладосці» Генрых Далідовіч зрабіў рэканструкцыю партрэта Максіма Багдановіча і распавёў пра яшчэ аднаго даследчыка жыцця і творчасці паэта — Яўгена Міклашэўскага — і яго кнігу «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча».

Ёсць яшчэ адна цікавая «ніточка», якая назаўсёды звязала часопіс «Маладосць» і паэта М. Багдановіча. Паведаміў пра гэта мастак Уладзімір Крукоўскі, аўтар плаката, падрыхтаванага да 90-гадовага юбілею Максіма: сімвалам часопіса стаў Багдановічаў васілёк. Ён фігураваў на вокладцы і ў канцы кожнага артыкула. Цяпер таксама існуе, але ў новым фармаце. На завяршэнне вечарыны Святлана Дзянісава падарыла музею значкі з выявай сімвала часопіса, якім стаў «цвяток радзімы васілька».

# Экзістэнцыя дрэва

Вялікая зала Музея сучаснага выяўленчага мастацтва да 30 сакавіка запрашае на выстаўку скульптуры і аб'ектаў славацкага мастака Марэка Рыбаня «Дэканструкцыя».

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Выстаўка арганізавана пры падтрымцы Пасольства Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і складаецца з аб'ектаў і станковых скульптурных кампазіцый, праз якія мастак звяртаецца да гледача ў лірычнай і паэтычнай форме, нягледзячы на жорсткую і нават драматычную апрацоўку дрэва, дэструктыўнае змяненне стану матэрыялу. Скульптуры, выстаўленыя ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, маюць пераважна станковыя памеры. Прыклад таму — каляровыя творы «Блакітная перфарацыя» як сімвал вечнасці, калі перфарацыя мінімальна змяняе не толькі паверхню, але і ўнутраную канструкцыю дрэва. Работы «У гонар Валуш'яка», «Блакітны аб'ект», «Малыя і вялікія шляхі» адлюстроўваюць містычныя, язычніцкія ўяўленні продкаў. Таксама на выстаўцы прадстаўлены адзін з найбольш знакавых і канцэптуальных твораў мастака — трыпціх «Кола, квадрат і трохкутнік».

Паводле славацкага мастацтвазнаўцы Мілана Мазура, Марэк Рыбань — творца, блізкі да прыроды. І сапраўды, дзейнасць мастака служыць гэтаму пацвярджэннем: менавіта прырода, на ўлонні якой ён вырас, натхняе на новыя творы. Спачатку, яшчэ падчас першых мастацкіх эксперыментаў ва ўніверсітэце, Марэк Рыбань вывучаў графіку, спрабаваў розныя тэхнікі і засвойваў разнастайныя формы і сродкі выяўленчай мовы.


Кафедральны сабор. Дрэва. 2012.

Сёння аўтар актыўна працуе з дрэвам, стварае аб'екты і станковыя кампазіцыі. Не парушаючы прыродную структуру матэрыялу, мастак змяняе форму метадам перфарацыі. Але гэта мінімалістычныя ўплывы, дзякуючы якім, аднак, нараджаюцца эфектныя кампазіцыйныя прыёмы і транслююцца містычныя ўражанні. Скульптуры і аб'екты Марэка Рыбаня адрозніваюцца вялікай унутранай моцай, гэта паэзія пра чалавека як асобу, пра чалавецтва ўвогуле, пра стаўленне людзей да жыцця і сям'і. Яго работы, напоўненыя разуменнем часу, нібыта з'яўляюцца жывымі сведчаннямі мінулых эпох і імгненнасці сённяшняга існавання.

# Арабскія ночы Мінска

**Алеся АРЫЦКАЯ**




Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прадставіў на суд гледачоў чарговую прэм'еру — на малой сцэне канцэртнай залы «Мінск» прайшлі паказы спектакля «Арабская ноч» па п'есе сучаснага нямецкага драматурга Роланда Шымельпфенінга. Рэжысёр-пастаноўшчык — А. Янушкевіч, мастак-пастаноўшчык — А. Вахрамееў. У спектаклі выкарыстана музыка кампазітара А. Літвіноўскага. Пераклад тэксту з нямецкай мовы на беларускую зрабіла Д. Даражок.

Сучаснага нямецкага драматурга і рэжысёра Р. Шымельпфенінга нездарма «пацягнула» на ўсходнія тэмы: пэўны час ён працаваў журналістам у Стамбуле. Да таго ж, менавіта туркі з'яўляюцца найбуйнейшай нацыянальнай меншасцю Германіі — 24,8 % ад усіх іншаземцаў. Гэтаму факту прысвечана не адна мастацкая работа. Аднак у п'есе «Арабская ноч» вы не знойдзеце згадак ні пра дыскрымінацыю, ні пра сацыяльна-эканамічныя праблемы. Тут вядуць рэй звычайныя чалавечыя пачуцці.

Галоўныя дзеючыя асобы (у спектаклі заняты маладыя артысты тэатра В. Гарцуева, К. Яворская, А. Казела, А. Малчанаў, В. Чаўлытка, М. Гардзіёнак, А. Чарнігін, А. Паўлаў, С. Чуб, С. Рудэня) — суседкі па кватэры медсястра Францішка Дэкэ і арабка Фаціма Мансур, яе каханак Каліль, малады рамантычны мужчына Петэр Карпаці, сантэхнік Ламаер — жыхары звычайнага горада, якіх адным душным вечарам лёс звёў у звычайнай шматпавярхоўцы. Кожны дзень яны выконваюць свае рытуалы: Францішка прыходзіць з працы і амаль адразу ж забывае, як правяла дзень, ідзе ў душ і пасля паглыбляецца ў непрабудны сон. Фаціма толькі гэтага і чакае, каб патэлефанаваць Калілю: пакуль суседка спіць, каханкі салодка бавяць чарговы вечар. Петэр прываблены прыгажосцю Францішкі, якую выпадкова пабачыў аголенай у ванне з акна суседняга дома. Ламаер робіць абход усіх паверхаў. Але сёння штодзённасць парушана: на восьмым прапала вада, і разам з ёй нібыта знікла і адчуванне рэальнасці, звычайнасці таго, што адбываецца, а з імі — усе ўмоўнасці. Героі засталіся сам-насам, паказаўшы свае сапраўдныя твары, вада нібыта прарвала пачуццёвыя «дамбы». І ўсё стала па-іншаму: пара Фаціма і Каліль, адносіны ў якой збоку падаюцца ідэальнымі (дый у гэтым не сумняваюцца і самі героі), распадаецца, Францішка ператвараецца ва ўсходнюю прынцэсу, Ламаер выпраўляецца ў далёкае плаванне, а Петэр наогул трапляе ў бутэльку.

І ўсё гэта для таго, каб давесці простую ісціну: жыццё і абсурд пераплецены і ўзаемазвязаны, часам пошукі лагічнага тлумачэння не маюць сэнсу, а дарослы чалавек увесь час вымушаны праводзіць у барацьбе з сабой, уласнымі жаданнямі і пачуццямі, рабіць пэўны маральны выбар, і кожная падзея пакідае ў душы глыбокі след.

Аднак ёсць пачуцці, якім заўсёды павінна знаходзіцца месца ў жыцці кожнага: вера, надзея, любоў. Нездарма рэжысёр спектакля зазначае, што атрымалася казка для дарослых кшталту «Тысяча і адной ночы». «Тут ёсць надзея на тое, што ўсё атрымаецца, а шчасце чалавека з іншым чалавекам магчыма. Калі не ў 20 год, то ў 30, калі не ў 30, то ў 40», — упэўнены Аляксандр Янушкевіч.

## Абрысы

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і Студэнцкае этнаграфічнае таварыства 23 сакавіка запрашаюць у філіял музея «Вязынка» на «Гуканне вясны». Наведвальнікаў музея чакаюць традыцыйныя спевы, веснавыя карагоды, народныя гульні і забавы, танцы пад дуду і кірмаш народных майстроў. А яшчэ і дзеці, і дарослыя могуць пагушкацца на арэлях. Аднавіць сілы пасля песень і танцаў дапамога пачастунак — бліны і гарачая гарбата. Не прапусціце, бо чакаць наступнага свята давядзецца цэлы год!

Новы драматычны тэатр запрашае гледачоў на II Мінскі міжнародны тэатральны форум «Крокі», які будзе праходзіць з 25 па 28 сакавіка. Удзел у ім бяруць прадстаўнікі дзіцячых тэатральных калектываў 5 краін — Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і Малдовы. Падчас форуму будзе прадстаўлены вясёлае хуліганства ў 1 дзеі К. Драгунскай «Усе хлопцы дурні!» Дзіцячай тэатральнай школы № 1 Новага драматычнага тэатра г. Мінска, гісторыя са шчаслівым канцом Н. Голубевай «Жабіна бойка» Дзіцячай тэатральнай школы № 1 Новага драматычнага тэатра, інтэрактыўна-дыдактычная казка М. Барценьева «Прывітанне!» тэатра «Вожыкі ў тумане» г. Светлагорска ды іншыя. Урачыстае адкрыццё форуму адбудзецца 25 сакавіка.

Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Ельскія чытанні» адбудзецца 27 красавіка ў Музейным комплексе старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі». Супрацоўнікі комплексу сумесна з гістарычным факультэтам БДУ запрашаюць усіх жадаючых далучыцца да цікавай гутаркі, тым больш што тэматыка «чытанняў» даволі шырокая: «Шляхецкая культура Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя», «Архітэктура шляхецкай сядзібы», «Садова-паркавыя і ландшафтныя традыцыі на Беларусі», «Музычная і тэатральная культура», «Прыватныя музейныя зборы — праобраз сучасных музеяў», «Краязнаўчыя даследаванні» і інш. Па выніках канферэнцыі плануецца выданне зборніка навуковых артыкулаў. Прыярытэт будзе аддадзены працам, прысвечаным вывучэнню спадчыны роду Ельскіх.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе разам са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым у сувязі са смерцю яго СЯСТРЫ ВАЛЯНЦІНЫ і выказвае глыбокія спачуванні.

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні пісьменніку Міхасю Пазнякову ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю СЯСТРЫ ВАЛЯНЦІНЫ.

Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказвае глыбокае спачуванне старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасю Пазнякову ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю роднай СЯСТРЫ ВАЛЯНЦІНЫ.

Супрацоўнікі Быхаўскай бібліятэчнай сеткі выказваюць словы глыбокага спачування старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, земляку Пазнякову Міхаілу Паўлавічу ў сувязі з напаткаўшым горам — смерцю СЯСТРЫ ВАЛЯНЦІНЫ.

# Душою — лірык, розумам — філосаф!

Генадзь Пашкоў — каларытная постаць нацыянальнай культуры, выдатны беларускі паэт, празаік і эсэіст. Яго пяру належыць больш як дзясятак цудоўных літаратурных зборнікаў.

**Іван САВЕРЧАНКА**

Першая кніга паэта пад назвай «Кляновік» (1975) утрымлівала вершы, у якіх была сфармулявана яго творчая праграма. Зачараваны магіяй слова, Г. Пашкоў шчыра спавядаецца, кажа пра ўласныя творчыя захапленні, прызнаецца ў любові да Радзімы. У вершы «Зямля дзядоў маіх, зямля...» ён выказвае гатоўнасць самааддана і ахвярна служыць роднай зямлі:

*Да кожнай тканачкі*
*я твой.*
*Твой боль — мой боль,*
*сухмень ці лівень.*
*Прашу цябе, зямля,*
*дазволь*
*быць каласком*
*у роднай ніве.*

Г. Пашкоў імкліва сталеў як пісьменнік, набіраўся літаратурнага досведу. Паступова пашыраліся яго творчыя далягляды, фарміравалася ўласная эстэтыка і адметны мастацкі стыль. Пра творчую эвалюцыю майстра слова красамоўна сведчаць яго зборнікі: «Будзень як свята» (1977), «Дыстанцыя небяспекі» (1979), «Гравюры дарог» (1981), «Зямлю слухаю» (1983), «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» (1986), «Маналог на кастрышчы» (1986), «Крокі» (1988), «Люблю, спадзяюся, жыву» (1990), «Пціч» (1992), «Маё лета» (2011), «У далонях свету» (2011), «Званы юнацтва» (2012).

Асноўная ідэя твораў — сцвярджэнне духоўнага пачатку ў грамадстве. Чалавек у жыцці павінен кіравацца розумам і сэрцам, разважлівасцю і пачуццямі, а галоўнае — шчырым імкненнем да праўды і справядлівасці. Эгаістычны разлік і бездухоўны прагматызм — згубны шлях для асобы і грамадства, цалкам справядліва мяркуе творца.

Г. Пашкоў — паэт-патрыёт, верны сын Бацькаўшчыны і адказны грамадзянін краіны. Ён назаўсёды знітаваны з роднай зямлёй, з беларускай прыродай і людзьмі. Паэт ганарыцца выбітнымі суайчыннікамі, з павагай ставіцца да велічнага і гераічнага мінулага Беларусі, пра што сведчыць яго эпічны верш-роздум «На Крэўскай градзе». Заклікае старанна берагчы памяць пра мінулае народа, захоўваць здабыткі нацыянальнай культуры.

Майстар слова не ўяўляе сябе па-за Радзімай, ён моліцца толькі за тое, каб быць вечна з зямлёю дзядоў. У вершы «Дарога дадому» родны кут для паэта асацыіруецца з раем — найлепшым месцам для жыцця, дзе пануюць радасць і спакой: «Калі ёсць сцяжыначка да раю, // гэта тая, што вядзе дамоў».

Уласную місію Г. Пашкоў бачыць у захаванні незвычайнай прыгажосці і ўтульнасці, якой шчодра надзелена Беларусь. У класічным вершы «Млее спелае лета» паэт выказвае гатоўнасць усімі сіламі берагчы нацыянальныя каштоўнасці, чысціню і святло роднага краю: «Вечны вандроўнік душою, // тут берагу карані».

Яго творчасць глыбока гуманістычная, скрозь працятая павагай да чалавека, шанаваннем адметнага ўнутранага свету кожнай асобы. Чалавек, на думку Г. Пашкова, валодае невераготнай стваральнай энергіяй і велізарным патэнцыялам. Пры гэтым у віхуры жыцця кожны робіць уласны выбар, кіруючыся паклічам сэрца. У выдатным вершы «Плывец» паэт, нібы прарок, прамаўляе:

*Ён зробіць так.*
*Яму відней за ўсіх,*
*ва ўласным лёсе выбіраць што трэба.*
*Вядзе душа,*
*якая мае слых.*
*І ні пры чым —*
*зямля,*
*вада*
*і неба!*

Паэт просіць нябёсы акрыліць «радасную птушку чалавечнасці». Ён дбае пра тое, каб людзі ніколі не страчвалі вернасць ідэалам, адданасць і сяброўства. У вершы «Я ўсім сэрцам вітаю вас» Г. Пашкоў дасылае моладзі трапны і выверены паэтычны месэдж: «Каб любіць — трэба верыць! // А каб верыць — любіць!»

Творчасці Г. Пашкова ўласцівы высокі грамадзянскі пафас. Яркім мастацкім словам пісьменнік адстойвае высокія духоўныя арыенціры і нязменныя прынцыпы народнай маралі. Ён не баіцца быць «праўдалюбам і максімалістам». У філасофскім вершы «Душа» паэт выказвае веру ў сапраўднае адраджэнне беларускага народа, які здолее вытрываць усе пакуты і прайсці праз розныя выпрабаванні: «Бо ёсць бунтарная, жывая, // ёсць чалавечая душа!»

У мастацкім свеце Г. Пашкова пераважае сацыяльны аптымізм, вера ў выратавальную сілу дабра і прыгажосці. Вершы «Зямля мая» і «Вольніца» цудоўна перадаюць крэатыўнае стаўленне да быцця, яго радаснае ўспрыманне разнастайных праяў жыцця. Асабліва сэрца паэта цешыць «радасць маладая», ён прагне пайсці ў «аржаное мліва», дзе прыемна буяе жыццё і «кадзіць зялёным дымам ніва».

Паэт пры гэтым ніколькі не ўнікае праўды і не абыходзіць трагічных старонак у жыцці народа. Шчымлівым болем па страчаных родных напоўнены радкі верша «Брат і сястра». Паэма «Трывога» перадае пакутліва-шчымлівыя перажыванні прарочыя прадчуванні «горкіх знакаў бяды». У надзвычай эмацыянальным вершы «Бацька» Г. Пашкоў паказвае невераготна цяжкі пасляваенны перыяд, калі балюча загойваліся раны страшнай бяды, а салдаты-бацькі па-ранейшаму не вярталіся са шпіталяў.

Трагічнае здарэнне, крушэнне самалёта, якое парушыла амаль ідылічны вясковы спакой, у цэнтры паэмы «Дыстанцыя небяспекі». Жахлівая і пакутлівая смерць лётчыкаў глыбока параніла сэрца паэта, адкрыла ў яго душы бязмежжа «самай першай і горкай журбы».

Г. Пашкоў стварыў сапраўдныя шэдэўры нацыянальнай інтымнай лірыкі. Ужо ў ранніх вершах «Маладзічок гарачых вуснаў» і «Імчаць нас да ракі...» выявіліся ўзнёслае і рамантычнае, трапяткое стаўленне паэта да кахання. Творца абагаўляе жанчыну, захапляецца яе хараством, душэўнай пяшчотай і крынічнай чысцінёй. Ён выяўляе рыцарскае стаўленне да жанчыны — вечнай крыніцы невычэрпнай радасці і бязмежнай асалоды. Каханая, нябесны анёл, увасабленне ўсёй зямной прыгажосці, найвышэйшы дарунак лёсу. Цудоўны верш «Назвала халодным і ціхім» — велічны гімн любімай жанчыне, паэтычны акафіст каханай, у якім яна ўпадабляецца ўсім найпрыгажэйшым праскам зямлі.

Дамінантнай рысай творчага метаду Г. Пашкова з'яўляецца філасофскі пантэізм. Паэт знітаваны з роднай прыродай, яна саграває яго сэрца і напаўняе жыццёвай энергіяй. Мастацкім словам Г. Пашкоў самааддана і натхнёна апявае прыгажосць роднага краю, абагаўляе дарагія яму рэкі і азёры, лясы і сады, дрэвы і кветкі. Вершы «Верасень», «Зазімак», «Аслепіць іней святлісты...», «Жыццядум», «Сцішаны лес, апусцелы», «Сыпанула звонкая лістота», «На Гарыні вечар сіні» — выдатныя ўзоры нацыянальнай пейзажнай лірыкі.

Лірычны герой верша «Зорны павой» усведамляе сябе неад'емнай часткай жывой прыроды, імкнецца даастатку раствварыцца ў стыхіі быцця. Яго душа гатова адляцець у нябёсы вольнай птушкай, вярнуцца да хмельна-варажбітных траў, знікнуць сярод вячыстых гаёў:

*Не шукайце вольнага на волі.*
*Вы мяне не знойдзеце нідзе.*
*Туманом сыду ў наваколле.*
*Не пакіну следу на вадзе.*



Паэт надзвычай занепакоены станам экалогіі, парушэннем балансу ў прыродзе. У паэме «На ласіных картах» ён з трывогай піша пра «злыселы да пянёчкаў лес» і «рэчку, што з атручанай вадою».

Г. Пашкоў — майстар мастацкага слова, строгі і дакладны ў пабудове вершаванага радка. Яго паэзія напоўнена светлымі фарбамі, іскрыстым зззяннем, беллю і чысцінёй. Паэт стварыў шмат яркіх вобразаў, адметных метафар, вынайшаў мноства дзівосных эпітэтаў, якія надзвычай трапна перадаюць колеры, гукі і пахі: «крамяны вечар», «сакаўны мурог», «смаляны дым», «палынны вецер», «малінавы досвітак», «ільняныя палі», «маладое неба», «расістыя словы», «чаромхавая паводка».

Проза Г. Пашкова прадстаўлена яркімі нарысамі і эсэ. Пісьменніка цікавяць людзі працы, арганізатары вытворчасці, стваральнікі новай індустрыяльнай Беларусі. Надзвычай удалы нарыс «На перавале», у якім распавядаецца пра складанасці ўзвядзення найбуйнейшага ў Еўропе бабруйскага шыннага камбіната. У падарожных нататках «Палескія вандроўнікі», «Дарога да акіяна», «Агні ў Барханах» пісьменнік шчыра дзеліцца ўражаннямі ад убачанага і перажытага, распавядае пра знакавыя сустрэчы са знакамітымі людзьмі. Яго лірычна-дакументальныя дзённікі і замалёўкі напоўнены арыгінальнымі назіраннямі і звесткамі, атрыманымі падчас вандровак па Беларусі і паездак у іншыя краіны.

Г. Пашкоў прытрымліваецца класічнай літаратурнай традыцыі, ён з належнай павагай ставіцца да набыткаў папярэднікаў, лепшых узораў мастацкай спадчыны. Галоўныя крыніцы яго творчага натхнення — непаўторная беларуская прырода, уласны духоўны досвед і жыццёвыя назіранні.

Як бачна, Генадзь Пашкоў істотна ўзбагаціў нацыянальную літаратуру яркімі мастацкімі вобразамі, стварыў шэдэўры інтымнай, пейзажнай і філасофскай лірыкі, бліскуча перадаў светаадчуванне і духоўны свет сучасніка. Пісьменнік нязменна і бескампрамісна абараняе гуманістычныя прынцыпы ўзаемаадносін паміж людзьмі і народамі, адстойвае правы беларускай нацыянальнай культуры на годнае месца ў глабалізаваным свеце.

# Ах, вёска, вёска!..

«Роднае, шчымлівае» — выдатная назва для новай кнігі Анатоля Крэйдзіча. Разумееш гэта, як толькі перагортваеш апошнюю старонку і спрабуеш адказаць на пытанне, ці гэтага ты чакаў, ці на такі «happy end» спадзяваўся.

**Марына ЛЯВОНЧЫК**

Кніга складаецца з дакументальна-мастацкай аповесці «Богаў сон», нататак, нарысаў і мініяцюр, якія яскрава раскрываюць яе назву.

Цэнтральнае месца адводзіцца, канечне ж, аповесці «Богаў сон», у ёй аўтар распавядае пра таленавітага беларускага мастака, выхадца з вёскі, які шмат чаго змог дабіцца за жыццё і працягвае дабівацца, самасцвярджацца і цяпер, праслаўляючы не толькі сябе, але і нашу краіну за яе межамі.

Пачынаючы чытаць твор, не адразу асэнсоўваеш, што ён складаецца з урыўкаў рэальнага чалавечага жыцця. І не адразу, а паступова высвятляецца, што герой — спярша гарэзлівы хлопчык, потым таленавіты юнак і, урэшце, выдатны мастак — жыве і творыць па сённяшні дзень, і імя яго — Янка Рамановіч. Гэта ён, выхаваны ў вёсцы, абагрэты цёплым ліпеньскім сонцам і выпешчаны ласкавымі павевамі вятроў, змог перадаць увесь каларыт сялянскага жыцця праз вобразы, праз фарбы. Палеская вёска стала яго музай, яна адкрылася яму праз твары бабулі, дзядулі, маці, суседзяў, праз цудоўныя краявіды, праз традыцыі, святы і многае іншае. І калі тое, што напісана ў гэтай аповесці, — праўда, то мы можам быць упэўненымі, што ў нас ёсць будучыня, і ёсць яна дзякуючы менавіта такім вось талентам. Прыемна, радасна сустрэць у творы імёны іншых выдатных сучаснікаў.

Што ж да нарысаў, мініяцюр, нататак, то яны маюць на мэце пазнаёміць чытача з сапраўдным жыццём, тым, што адбываецца тут і цяпер у розных мясцінах нашай краіны. Апісана, чым і як жывуць нашы землякі. Іх дасягненні, змены, якія можа заўважыць толькі чалавек збоку, які раней дакранаўся да іх лёсу. Такім чалавекам у дадзеным выпадку з'яўляецца сам аўтар.

Яшчэ адной вельмі важнай адметнасцю згаданай кнігі з'яўляецца і тое, што напісана яна, у большай ступені, пра вёску, пра сялянскае жыццё, пра саміх сялян, іх побыт і звычаі. Многае мы ведаем з твораў нашых класікаў, але з таго часу вельмі шмат што змянілася, і вёска таксама. Аўтар спрабуе паказаць гэтыя змены, прадэманстраваць, што адбыліся яны ў лепшы бок.

Калі ж вяртацца да назвы кнігі, то хочацца зазначыць, што менавіта гэтыя два словы — роднае, шчымлівае — раскрываюць сэнс усіх яе твораў. Аўтар дае чытачу зразумець, што мы, грамадзяне сваёй краіны, павінны ведаць уласную культуру, свой народ, тых, хто нас праславіў, і



тых, хто яшчэ неадназова гэта зробіць. На Беларусі шмат таленавітых людзей, чароўных мясцін, у нас багатая гісторыя, толькі патрэбна пра гэта памятаць. Тады роднае не будзе здавацца нам далёкім.

# Шчырая сустрэча з «Белавежай»




Мае рацыю Ян Чыквін, які называе літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» беларускім Саюзам пісьменнікаў Польшчы. Вось гэты саюз творчых беларусаў атрымаў падарунак — літаратурны альманах «Белавежа». Падарунак белавежцы зрабілі самі сабе, але для шырокага кола чытачоў, якім не абыякавая беларуская літаратурная творчасць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Шчыра скажу, я парадаваўся за альманах не менш за тых, чые творы склалі гэтую кніжку. І прачытаў яго з вялікай радасцю і прыемнасцю. Прачытаў і адпачыў душой і сэрцам. Я люблю і цаню белавежцаў за іх талент, адданасць роднаму слову, за беларускасць. Я ганаруся імі і заўсёды буду нізка перад імі кланяцца. Гэта розныя па ўзросце людзі: ад старэйшага і мудрага Георгія Валкавыцкага да таленавітай прыгажуні Кацярыны Сянкевіч.

Наогул, пра літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» можна пісаць і абараняць доктарскія дысертацыі. Шлях яно прайшло вялікі — ажно 54 гады. І шлях працягваецца, і на яго ступаюць усё новыя і новыя творцы, далучаюцца яны смела, апантана, ярка. Праўда, альманах белавежцаў даўно не з'яўляўся на свет. Затое асобныя зборнікі беларускіх літаратараў Польшчы выходзяць рэгулярна і чытаюцца даволі цікава, хаця хапае і ў іх слабых твораў.

У маёй асабістай бібліятэцы ёсць літаратурныя альманахі «Рунь» (1959), «Мой родны кут» (1963), тры кнігі «Белавежы» (1965, 1972, 1980), «Літаратурная Беласточчына» (1973), «Гасцінец» (1992), «Беларускія пісьменнікі Польшчы» (2000), «Букет Белавежа» (2001), якія выдаваліся ў Польшчы і ў Беларусі. І літаратурны альманах «Белавежа». У прадмове да «Руні» Георгій Валкавыцкі, ініцыятар стварэння «Белавежы», пісаў: «Беларускія літаратурныя сілы ў Польскай Народнай Рэспубліцы толькі што пачалі пускаць першыя парасткі; перад імі ўсе цяжкасці творчага станаўлення і нязведаныя далі рамантычнага падарожжа, якое вабіць і насцярожвае. Трэба спадзявацца, што выданне гэтага зборніка прычыніцца да творчага ўзросту нашых аўтараў, будзе значным штуршком у прад'яўленні да саміх сябе большай патрабавальнасці ў аваладванні літаратурным майстэрствам і гэтым самым унясе каштоўны ўклад у развіццё культуры нашай народнай краіны. З тым большай упэўненасцю можам аб гэтым гаварыць, калі ўлічым факт, што дагэтуль на Беласточчыне не выйшаў ніводзін паэтычны зборнік. Тое, што мы першымі выйшлі абрабляць паэтычныя аблогі, павінна дадаць нашым паэтам бадзёрасці ў пошуках сваёй папараці-кветкі». Цяпер так сказаць нельга, бо першыя парасткі «Белавежы» даўно далі добрыя творчыя ўраджаі, а маладыя ад іх не адстаюць і ў нейкай ступені нават перасягаюць. І тая задумка пра стварэнне ў Польшчы «Белавежы» не была марнай і часовай: у Польшчы выдаюцца беларускія кнігі, ладзяцца прэзентацыі, вечары, сустрэчы, семінары, творы «белавежцаў» перакладаюцца на розныя мовы, некаторыя ўвайшлі ў школьныя падручнікі. Значыць, Георгій Ваўкавыцкі не памыліўся, а глядзеў далёка наперад з надзеяй, што ў творчага аб'яднання будзе плён. Так яно і атрымалася.

Распачынаецца новы літаратурны альманах «Белавежа» ўспамінамі Г. Валкавыцкага. Гэта невялікія згадкі пра маму, а таксама ўрывак з кнігі «Віры. Нататкі рэдактара», дзе старэйшы беластоцкі белавежац прыгадвае першыя старонкі з гісторыі літаб'яднання і людзей, якія стваралі беларускі тыднёвік «Ніва».

Побач друкуюцца творы не менш паважаных і таленавітых Віктара Шведа, Васіля Петручука, Дзмітрыя Шатыловіча, Яшы Бурша, Алеся Барскага, Алены Анішэўскай, якая, на жаль, ужо пайшла з жыцця. Нават у сталым узросце майстры слова застаюцца адкрывальнікамі новага, цікавага і непаўторнага. У іх душах бруіцца паэзія, магчыма, яна іх лечыць, суцяшае. Таму і прыклад нам, маладзейшым, ёсць з каго браць. І калі я чытаю творы старэйшых беларусаў «Белавежы», прыгадваю радкі Янкі Сіпакова з яго ўспамінаў «Мая бібліятэка»: «Мы ішлі ў літаратуру не па адным. Мы ўрываліся ў літаратуру ўсе разам — гуртам, выраем, моцнаю хваляю, усім пакаленнем. Нам так было зручней, цікавей, весялей, радасней. І чым больш было ў нас паплечнікаў, тым упэўненей мы сябе адчувалі: расце наша родная літаратура! Заўсёды думалі мы не толькі пра свае творы, але і пра літаратуру».

Добра, што ў літаратурным альманаху «Белавежа» апублікаваныя здымкі пісьменнікаў і іх біяграфіі, а таксама ці не ўпершыню даюцца звесткі пра іх літаратурныя псеўданімы, якіх няма нават у «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» (Мінск, 1983) Янкі Саламевіча. Наогул, беларускія пісьменнікі сталі карыстацца псеўданімамі яшчэ з XVI стагоддзя. Гэта былі пераважна пісьменнікі-палемісты, якія выступалі супраць каталіцызму, супраць уніі. Псеўданімнае і ананімнае выданне было паратункам ад суда і смяротнага пакарання. Так, напрыклад, у Брэсце ў 1564 годзе была выдадзена прагрэсіўная на той час брашура «Размова паляка з літвінам пра тое, што ёсць правы, вольнасць, або свабода, і пра унію кароны Польскай з княствам Літоўскім». Чытаючы «Белавежу», я раскрыў таямніцу псеўданімаў Сакрата Яновіча, Юркі Геніюша, Міколы Гайдука, Аляксандра Баршчэўскага, Якава Анісэровіча, Віктара Шведа, Георгія Валкавыцкага, Яна Чыквіна. Маладзейшае пакаленне белавежцаў амаль не хаваецца за выдуманымі імёнамі.

Шмат гадоў узначальвае літаб'яднанне прафесар Ян Чыквін. Ён у 1990 годзе быў ініцыятарам выдання бібліятэкі «Белавежы», дзе ўжо выйшла з друку 83 беларускія кнігі, у тым ліку і літаратурны альманах «Белавежа». Ян Чыквін сапраўды шмат робіць для літаб'яднання і яго сяброў. Ён не толькі паэт-наватар, але і нястомны прапагандыст беларускага літаратурнага слова ў Польшчы і па-за яе межамі. «Я тое, што не згіне», — пісаў ён у адным са сваіх ранніх вершаў. Сапраўды, не згіне і тое добрае, што робіць прафесар Чыквін.

Творчасць самабытнага празаіка лірычнага складу Сакрата Яновіча адметная, як зазначыў Пятро Васючэнка, нечаканымі пераходамі і неспадзяванкамі. Цяжэй у творах пераадольваюцца страхі жыцця. Чаму так — адказ шукаю ў яго ягонай прозе: «Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне. І ў вечнае, бо бязмежнае. І ў чалавека. І ў свет — веру!»

З празаічнымі жыццёвымі развагамі ў літаратурным альманаху выступаюць Янка Целушэцкі, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Яўген Вапа і іншыя.

Падборка вершаў Віктара Стахвюка адкрываецца яго жыццяпісам. На маю суб'ектыўную думку, гэты жыццяпіс не пасуе да альманаха, тым болей што ў кнізе надрукавана і кароценькая яго біяграфія, якой хапіла б да падборкі добрых вершаў паэта, які «міг гэты прагна п'е» і жадае «апошняй птушкай у ключы паляцець у вырай». Да птушак звяртаецца ў філасофскіх вершах і Галіна Тварановіч, бо насамрэч «вялікай птушцы знаць: пакрысе спеюць высі і крылы крэсляць ШЛЯХ». А вось вершам-роздумам Лідзіі Маліноўскай птушкі і крылы не патрэбны, бо паэтка «ўзлятае без крылаў» да каляровых аблокаў і яркага сонца.

Уладзімір Саўчук, Жэня Мартынюк, Юрый Баена, Міра Лукша, Міхась Андрасюк народжаныя ў другой палове 1950-х. Гэтае пакаленне моцна настальгіруе па маладосці, калі шчасна і светла жылося ў бацькоўскіх хатах, калі грэла «святло дзяцінства» (Жэня Мартынюк), калі «вёска танула ў мелодыях песняў» (Юрый Баена), калі «шукалі кожны з нас мы шчасця незямнога» (Міра Лукша), бо цяпер вельмі часта «ажывае свядомасць пражытых гадоў» (Уладзімір Саўчук), «сніцца дурная маладосць, песні-красуні і віно» (Міхась Андрасюк) і сняцца мамы, якія ткуць і вышываюць «задушэўнай ласкай, цёплаю журботай, песняю сваёй» (Жэня Мартынюк).

Ну, а цяпер пра самае прыемнае, што надрукавана ў альманаху «Белавежа». Гэта вершы маладых беларускіх паэтаў Польшчы — Юркі Буйнюка, Юстыны Каролькі, Віялеты Нікіцюк і Кацярыны Сянкевіч. Толькі юная Віялета Нікіцюк яшчэ не мае ўласнага зборніка вершаў, але гэтая радасць у яе наперадзе. Затое як яна сур'ёзна і мудра разважае ў сваіх паэтычных строфах. Вершы Юркі Буйнюка, Юстыны Каролькі і Кацярыны Сянкевіч здзіўляюць сваёй смеласцю, яны арыгінальныя і кранальныя, простыя і разнастайныя паводле тэматыкі і формы.

Складальнік альманаха ўключыў у кнігу і творы тых аўтараў, якіх ужо няма на свеце: Янкі Жамойціна, Міколы і Уладзіміра Гайдукоў, Юркі Геніюша, Міхася Шаховіча. Мініяцюра Юркі Геніюша «Смыком па сэрцы» пачынаецца так: «Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрані абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А калі сумную — кіпцюры па сэрцы заскрабуць...» З мелодый розных літаратурных струн складаецца і беларускі альманах «Белавежа» з Польшчы. То сумныя гэтыя мелодыі, то радасныя, то выразныя, то ціхія, то філасофскія, то простыя... Але так і павінна быць.

# На мяжы даляглядУ

«Раман-эсэ "Мяжа" пасля часопіснай публікацыі стаўся, паводле шматлікіх выказванняў крытыкі, з'явай у беларускай прозе», — значыцца ў анатацыі да аднайменнай кнігі Андрэя Федарэнкі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Не так даўно давялося кваліфікаваць як з'яву эпас У. Гніламёдава. Дык тое ж эпас!.. Ці сапраўды не толькі эпас і не толькі сусветны бестселер можа быць з'явай, хаця б толькі ў межах адной літаратуры — гэтае пытанне інтрыгавала мяне загадзя.

Другая інтрыга — «імя на слыху». Не вельмі начытаная ў сучаснай беларускай літаратуры — хто пасміхаецца, сам добра начытаны? — некалькі імёнаў за некалькі месяцаў я запомніла. Адзінкі вызначыла «пачытаць». Сярод іх і А. Федарэнку. Магчыма, увагу затрымаў яшчэ адзін момант з анатацыі: «аўтабіяграфічны раман». Прыемна павеяла традыцыяй — сучасны варыянт «Паэзіі і праўды»? Або «Будэнброкаў»? Ці, можа «Данцыгскай трылогіі» ў сэнсе праекцыі аўтабіяграфіі на «біяграфію» краіны? Што б тое ні было, амаль неверагодна, каб у падобным рэчышчы — і нешта нявартае. Адным словам, анатацыі ўсё ж «нехта чытае», і гэта, безумоўна, патрэбная рэч.




*Федарэнка, А. Мяжа: раман-эсэ, апавяданні. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.*

Шчыра кажучы, адчувала сябе Пятніцам. Чым уразіць А. Федарэнка — калі ўразіць увогуле?

Уразіў. Адпаведнасцю класіцы аўтабіяграфізму: «паэзіяй і праўдай» вылучэння пісьменніка з натоўпу «звычайных» людзей, паэзіяй-праўдай як адпаведнасцю працатворчасці, шчырасцю ўспамінаў і разважанняў пра ўзлёты і паразы на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў адкрыцця і захавання сябе пісьменнікам. Уразіў асэнсаванасцю жыццёвага шляху, адчуваннем межаў, здольнасцю і патрэбай спалучаць «канцы» і «пачаткі».

Парадавала і форма: эсэістычнае нанізванне эпізодаў, навелак, замалёвак, урывачкаў з аповесцей, яшчэ чагосьці. Не «ноў-хаў», але — лагічна. Бо ёсць Мэта гэтага пісання — усвядоміць, як «дайшоў да такога жыцця», як зрабіўся пісьменнікам. Марнае пытанне? Але ж на тэму: ці сапраўды я — на сваім месцы?

Грасаўска-томасманаўска-маркесава нязмушанасць спалучэння ўласнай гісторыі з сацыяльным зрэзам грамадскасці — таксама ўражанне. Тут і знакамітае «зыходзіш, вёска, з яснай явы» — шкада і балюча. Этнаграфічныя замалёўкі, малюнкі «з натуры» (як пра настаўніц у палітэху) — «дакументы часу» ў дачыненні да паўсядзённага жыцця савецкай праўвінцыі. І ўзнаўленне «часу» — той самай брудна-шэрай, надрыўна грубай, безгустоўнай і бязлітаснай, літаральна п'янай пары спелага сацыялізму і падсвядомай прагі перамен. «Шэрасць, ураўнілаўка, умеранае хамства». «Дурасць, шэрасць, душната». Яшчэ — жорсткасць. Вось тут зарытая жыццёвая Мэта: як пазбегнуць, не спіцца, не аскацініцца. Захаваць сябе, застацца ў жывых. Літаратура — паратунак.

Я таксама добра памятаю той час — з пачатку 1980-х. Памятаю пратэст супраць бязглуздзіцы, марнавання часу ў моладзевым асяроддзі. Паратункам сталіся самастойнасць і чытанне. Спачатку — белетрыстыкі, потым — класічнай рускай і замежнай літаратуры. Значна пазней — класічнай беларускай. Але ж высвятляецца, што ёсць яшчэ і беларуская сучасная. Чарговае жыццёвае адкрыццё. Мяжа.

70 гадоў таму, 22 сакавіка 1943 года, нямецка-фашысцкімі акупантамі была спалена разам з жыхарамі вёска Хатынь Лагойскага раёна (26 двароў, 149 чалавек, у тым ліку 75 дзяцей). На месцы знішчаных сялібы ў пасляваенны час створаны велічны мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс, які, паўтараючы планіроўку в. Хатынь, займае плошчу 50 гектараў.

Валеры МАКСІМОВІЧ



## Хатынь

**I**

*Звон — несціханы, натужны, напяты —*
*Зводдаль трывожыць прастор-наваколле.*
*Як вокам акінуць — ні гумнаў, ні хатаў,*
*Ні дзетвары, ні жытнёвага поля.*

*Вёскі пазнака — у чорным граніце.*
*Зрубы-вянцы замест хатаў — бетонныя.*
*Сонца нязрушна стаіць у зеніце.*
*Ў нерушнай немачы — ціш навакольная.*

*Часу застыла смуга-павалока,*
*Памятку вогненных дзён расскрыжаліла:*
*Ў бестэрміновай жалобе глыбокай*
*Звон-напамінак на свет цэлы зладзіла.*

*Сцішана. Скрушна наўкол. І самотна.*
*Вечнасць сама тут у смутак агорнена.*
*З лёсу бядотнага, з долі гаркотнай*
*Ные-шчыміць зноў у сэрцы расколіна.*

**II**

*Ў неба скрозь замець вясновага рання*
*Чорнага дыму клубок узвіваецца...*
*— Дзе ж тое выйсце? Дзе ратаванне? —*
*Вочы і рукі людскія хапаюцца*

*За аскалёпак жыцця выратоўны —*
*Жменю паветра гарача-атрутнага,*
*Цягнучы рукі увысь малітоўна,*
*Прагнучы вырвацца з пекла пакутнага.*

*Плоймы агню спапяляльна-сляпыя*
*Рвуцца, шугаюць увышу раз'юшана.*
*Глушацца ў полымі крыкі людскія,*
*Целы ад болю і жаху пакручаны.*

*Стогны і енкі ў палаючай пуні...*
*Голас дзіцячы, адчайна-надрывісты...*
*Стрэл кулямётны... Здрадлівыя кулі...*
*Погляд забойцы халодна-ваўчыністы.*

*Літасці й жалю не ведалі каты —*
*Племя манкуртава, выпладкі варвараў.*
*Помсцілі-нішчылі ўсё юданяты*
*Помстаю жудаснай, лютай, пачварнаю.*

*Гінулі людзі — жывымі гарэлі*
*Ў полымі страшным —*
*ні ў чым не павінныя,*
*Ах, як жа жыць яны прагна хацелі,*
*Мары снавалі свае сакаліныя!*

*Песні спявалі — аж свет дзіваваўся! —*
*Несліся зыкі над ніваю зжатаю.*
*Недаспявалі... Той спеў абарваўся*
*З прышлай навалай, з вайною заклятаю;*

*Доліца скрутная іх напаткала,*
*Неспагадлівая, злая, каляная,*
*З першай праталінай, сонцам ласканай,*
*З першай вадзіцай вясноваю, талаю.*

**III**

*Звон пераліўны — шчыроўна, упарта —*
*Будзіць прыспаныя далі лясныя*
*І з неадольнай і моцай, і гартам*
*Просіцца ў душы і сэрцы людскія.*

*Просіцца песня — лясная, жывая —*
*Не удаваная, не металёвая, —*
*Песня з майго васількговага краю,*
*Песня світальная — жаўруковая.*

*Над скамянелай вайною — у вышы,*
*Па-над сінечай*
*крыштальна-празрыстаю, —*
*Будзіць жаўрук весняй раніцай ціша —*
*Мірную, родную, любую, чыстую.*

*Спеў мілагучны, да болю знаёмы,*
*Звонка гучыць над зямлёй несціхаючы,*
*Край запаветны, край светла-зялёны*
*Песняй вясны пераможна вітаючы.*

*Памяць спаўе маё сэрца тугою,*
*Спеў жаўрука — дасць мне моцы жыццёвае.*
*Слухаў, здаецца б, абуднай душою*
*Гэта літанне — за свет — жаўруковае.*

*Не супыніць гэту цудную песню*
*Над жыццядайнай адталай праталінай...*
*Ўпарта, нязмоўкла звініць напрадвесні*
*Спеў жаўруковы — над памяццю спаленых.*

17 — 19.01.2013



*Фота Кастуся Дробава*

Ала САСКАВЕЦ



## Настальгія

*Мне сінь вачэй прыснілася ўначы!*
*Той позірк вёў мяне калісьці*
*па сцежачках жыццёвых...*
*Губляўся часам і адшукваўся ізноў,*
*як васілёк сярод палёў жытнёвых...*
*Ды час не здольны*
*сінь вачэй згасіць.*
*Шкада, — мне вуснамі да іх*
*не дакрануцца...*
*Таму спяшаюся не каяцца — прызнацца:*
*удзячна Богу за спатканне,*
*а сваіму сэрцу — за прызнанне ў ім таго,*
*чыё вачэй цяпло*
*ў душу здранцвелую маю*
*праменьчык сонца здолеў пасяліць.*
*Ён і цяпер яшчэ гарыць!*
*І цепліць шрэрань дзён,*
*што восенню жыцця завецца!*

## Гімн гуку

*Гітары звон кранае сэрца мне*
*зазыўнасцю сваёй.*
*А споведдзю адкрытай*
*здзімае папялок з вугельчыкаў*
*кастрышча, —*
*яно ў грудзях маіх памесцілася ледзь...*
*Мне не шкада, бо грэлі ля яго*
*не толькі трапяткія сэрцы:*
*былі ілгуны і проста слабакі,*
*майстры пляткарства, зайздрасці*
*ўмельцы...*
*А ўсё ж найбольш было другіх:*
*разумных, добрых, дарагіх...*
*Калі ж у памяці сардэчнай*
*знайшлі яны куточак для мяне,*
*са шчырасцю скажу, што іншай долі*
*у Госпада не папрашу я для сябе.*

***

*Акардэона бела-чорныя рады!*
*Вы ўсё яшчэ ўладарыце над струнамі*
*маёй душы.*
*Пачую пераборы спрытных рук,*
*Ільецца ў сэрца меладычны гук,*
*І ў памяці ўсплыве жывая музыка*
*юнацтва:*
*Насціл для танцаў*
*пад адкрытым небам,*
*Плячо пад пальцамі,*
*Салодкі шыпра пах...*
*Сэрца біццё, кружэнне ў такт!*
*Ад дотыку пяшчотных дужых рук*
*Туманіць галаву*
*прыгожы, пылкі танга рух.*

## Новая Купалінка

*Купалінка, Купалінка!*
*Цёмная ночка.*
*Цёмная ночка,*
*А дзе ж твая дочка?*
*Цёмная ночка,*
*А дзе ж твая дочка?*

*Мая дочка у садочку*
*Белу ружу ломіць.*
*Белу ружу ломіць,*
*Свае ручкі коліць...*
*Белу ружу ломіць,*
*Свае ручкі коліць...*

*І яна ў тым садочку*
*Хлапчыну чакае...*
*Хлапчыну чакае,*
*Ружу прытуляе...*
*Хлапчыну чакае,*
*Ружу прытуляе...*

*Калі ж прыйдзе у садочак*
*Хлапчына каханы,*
*Будуць ручкі у дачушкі*
*Хлопцам цалаваны...*
*Будуць ручкі у дачушкі*
*Хлопцам цалаваны...*

*Купалінка, Купалінка!*
*Цёмная ночка.*
*Цёмная ночка,*
*Будзь шчаслівай, дочка!*
*Цёмная ночка,*
*Будзь шчаслівай, дочка!*

Марыя КОБЕЦ



***

*Вецер лашчыць зімовую хмарку.*
*Ён каханак яе і вястун.*
*Даланёю падхопіць і шпарка*
*Закалыша, гарэза-пястун.*

*Валасы ёй расчэша імкліва,*
*Клапатлівай расправіць рукой.*
*Сарамліва, ласкава, цнатліва*
*Пацалуе, крануўшы шчакой.*

*Побач зорка — нябёсаў істота —*
*Ззяе ярка на Млечным Шляху.*
*Але ў бляску — нуда і самота.*
*Ёй жа ласкі, ну хоць бы крыху!*

*Маладзік — прыгажун яснавокі —*
*Асвятляе наўкола усіх.*
*Ды пагляд свой халодны, высокі*
*Ёй не дорыць, а звыкла прыцых.*

*Толькі зорачка з даляў далёкіх*
*Бляск свой дзеліць са мной надвая.*
*І здаецца такой адзінокай!*
*Адзінокай... Такой жа, як я.*

***

*Ужо мінае хутка ноч,*
*Зімовы золак вытчэ кужаль.*
*А сон ізноў прайшоў наўзбоч —*
*У мой пакой не зазірнуўшы.*
*І хутка-хутка новы дзень*
*Імклівым рухам завірує.*
*Ён, нібы злыдзень-авадзень,*
*Памылак жорстка не даруе.*
*І захліснє уранку зноў*
*Нанова хваляю маркоты.*
*А я ў чаканні светлых сноў —*
*Адна са звыклаю самотай.*

*А заўтра зноў настане ноч,*
*У шыбку зоркай падміргнуўшы.*
*А сон ізноў, ізноў наўзбоч —*
*У мой пакой не зазірнуўшы.*

***

*Не паверу табе, не паверу.*
*Ты знарок мяне дражніш, знарок.*
*Я ж адвыкла даўно ад даверу,*
*Як здзічэлы пужлівы звярок.*

*Не паверу ў пагляд твой, ды й, мабыць,*
*На нажыўку не возьмеш мяне.*
*І не зможаш нічым такім звабіць.*
*Не паверу табе я больш, не.*

*Як не веру ў твае абяцанкі.*
*І цяпер — лепей буду адна.*
*Я — сур'ёзна, а ты — у гулянкі,*
*Бо дагэтуль ты ўсё не спазнаў.*

*Я прыйшла да другое высновы —*
*Бо лісліваць твая ўся — мана.*
*Не паверу ні ў справы, ні ў словы.*
*Насамрэч, мне хапіла спаўна.*

## Мроя

*Пранізлівы пагляд,*
*Загадкавы, яскравы.*
*І словы неўпапад.*
*Гарачы кубак кавы*
*апаліць вусны?.. Не —*
*Душу маю апаліць.*
*Мурашкі па спіне,*
*І ты — такі ласкавы.*

*Здаецца, гэта сон*
*з вясёлкавым адценнем.*
*Дыханне ва ўнісон,*
*Якога нестае мне.*
*Якога нестае,*
*Якога не хапае.*
*Мурашкі па спіне.*
*І ты — такі ласкавы.*

*Ажно туманіць зрок,*
*Ажно дранцвеюць ногі,*
*Вар'яцтва побач — з крок,*
*Назад няма дарогі.*

*Усё нібы ўва сне:*
*Гарачы кубак кавы,*
*Мурашкі па спіне,*
*І ты — такі ласкавы.*

# Янка ГАЛУБОВІЧ

## Кароткія апавяданні

### ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ...

З самага ранку ля дома адпачынку затармазіў аўтобус, і з яго выйшлі дзве пасажыркі. Адна, гадоў каля сарака, з хваравітым тварам і сінімі кругамі пад вачыма. Другая яшчэ зусім дзяўчо, гадоў так каля сямнаццаці, з доўгай коскай за плячыма. Гэта былі маці з дачкой.

Ля жанчын яны прыпыніліся на хвілінку, старэйшая павіталася і тут жа пачала спавядацца:

— Бацька ў камандзіроўку на тры месяцы з'ехаў, дык я сама для дачушкі ў фабкаме пуцёўку выбіла. Няхай адпачне Марылька.

Жанчыну ажно віхляла ўбакі, ад яе на вярсту несла смярдзючым перагарам.

А праз два дні вечарам, калі пачаліся танцы, мне зноў давялося ўбачыць Марыльку. Яна сядзела каля баяніста ў расхлістаным халаціку з цыгарэтай у зубах. З-пад растрыбушанай коскі былі відаць вострыя каптурыкі грудзей. Нейкая ачмурэлая, вялая. Яе маленькая галоўка не трымалася на шыі. Сядзела і клявала носам.

«Няўжо п'яная?» — падумалася.

Падышоў бліжэй. Так і ёсць. Марылька нешта гаварыла баяністу, а ў самой яжно язык заплятаўся.

Нават не згледзеў, як каля дзяўчыны апынуўся гадоў трыццаці пяці здаравенны бамбіла з залысінамі на галаве, схапіў Марыльку пад пахі і пацягнуў з танцпляцоўкі. Жанчыны справілі гвалт, адабралі ад яго Марыльку.

Праз колькі дзён Марыльку выпісалі з дома адпачынку. Дзяўчына залезла ў буфет і сцібрыла там дзве пляшкі каньяку.

### САРОКА-ЗЛАДЗЕЙКА

Сышоў з электрычкі і напрасткі па скошаным лузе падаўся на хутар, дзе на самым узлеску залаціста-жоўтымі кветкамі цвіў святаяннік.

Па небе дзе-нідзе плылі рэдзенькія бялёсыя хмаркі. Моцна прыпякала сонца. Непадалёку ад невялікай, з пахіленым комінам на страсе, хаткі дзядзькі Піліпа паблісквала ладная сажалка. У ёй купаліся загарэлыя хлапчукі.

Праз якіх паўгадзіны з бухматым пукам святаянніку я вярнуўся назад. Ад гарачыні пот засціláў вочы, а яшчэ не было паратунку ад сляпнёў. Вырашыў крыху спаласнуцца і пачаў набліжацца да сажалкі.

Хлапчукі больш не купаліся. А адзін з іх, гадоў так дванаццаці, са светлым чубікам на галаве, худзенькі ўвесь, ажно празрысты, сядзеў на беразе сажалкі і ціха плакаў.

— Хлопчык, чаго ты плачаш? — спытаў я адразу ў яго.

— Гадзіннік мой прапаў. Зняў з рукі і на порткі паклаў, а вылез з вады — гляджу: няма майго гадзінніка. Будзе мне ад бацькі.

Хлапчук сядзеў, падкурчыўшы пад сябе ногі, як напалоханы верабейка. Ён пацёр леваю рукою вочы і заплакаў яшчэ мацней.

— Ваня, а можа, сарока твой гадзіннік ухапіла? — падаў голас цыбаты хлапчук з носам-бульбінкаю.

— Няўжо? — здрыгануўся, не перастаючы плакаць, хлапчук.

— Далібог, Ванечка! — пабажыўся хлапчук з носам-бульбінкаю. — Сам бачыў, як яна каля самай сажалкі лятала.

— Не слухай яго, Ваня. Яму пабажыцца, як сабаку муху злавіць. Во выдумаў! Патрэбен сароцы твой гадзіннік, — сказаў, амаль глытаючы словы, тоўсценькі, нібы ступка, хлапчук і выйшаў наперад. Ён адкінуў з твару мокрыя кудзеркі валасоў і дадаў: — Куранят аднойчы ў нас сарока пакрала, а вось каб гадзіннік яна схапіла, не ведаю.

— А дзе цяпер сарока падзелася? Не бачыў, куды паляцела? — спытаў я ў Віці. Так звалі хлопчыка з носам-бульбінкаю.

— Бачыў. Яна вунь да тых бярозак паляцела, — паказаў ён рукой.

«Мабыць, і сапраўды мае рацыю Віця». Гэтая думка не пакідала мяне ўвесь час, і я скамандаваў:

— Гайда за мной!

На адной бярозе я ўбачыў контуры гнязда і палез уверх па ствале. З гнязда нечакана выскачыла сарока, засакатала на ўсё горла, ажно рэха пакацілася па ваколіцы.

Дабраўся да самага гнязда, прымасціўся на галіне і засунуў руку ў латок, які быў зверху і з бакоў укрыты рэдка пакладзенымі сучкамі. Асцярожна абмацаў гняздо ўнутры і раптам — быццам мне за каўнер халоднай вады лінулі. Мае пальцы наткнуліся на нешта цвёрдае і халоднае. «Няўжо гадзіннік?» — мільганула ў галаве. Хуценька выцягнуў з гнязда руку і ўзрадаваўся. У ёй я трымаў гадзіннік «Секунда», на цыферблаце якога быў намаляваны хакеіст з клюшкай.

Паклаў гадзіннік у кішэню і спусціўся на зямлю, дзе мяне з нецярпеннем чакалі хлапчукі.

— Твой? — спытаў у Вані, паказваючы яму гадзіннік.

— Мой, мой, дзядзечка! — заскакаў ад радасці хлапчук.

Твар Вані, нібы з яго сплыла шэрая аблачынка, адразу пасвятлеў.

### БАРАВІКІ ЦАЛУЮЦЦА

Унучка суседкі Просі — Насця, чарнявая, нібы цыганка, у вёску на канікулы прыехала — надвячоркам прынесла з лесу поўны кошык адных падасінавікаў.

Цуд, дый годзе! Амаль два тыдні спякота стаіць, дыхнуць няма чым, а яна на грыбы натрапіла. Ды яшчэ якія! Падасінавічкі як на падбор, маладзенькія, а шапачкі ажно агнём чырвоным гараць.

Спытаў у Настачкі, дзе яна столькі падасінавікаў знайшла, а дзяўчына варухнула чорнымі броўкамі, усміхнулася і кажа:

— Жывому чалавеку ўсяго трэба. Гэта табе, Янка, старому халасцяку, ні пра што галава не баліць. Калі ўжо і жаніцца будзеш?

Пачырванеў я, як вараны рак, ды паціснуўся да веснічак.

Назаўтра, недзе пасля абеду, Настачка збаночак сунічак назбірала. «Ну і шустрая! Як кажуць, дзе толькі фэст, то і я там ест», падумаў так пра дзяўчыну і, вядома ж, рашыў таксама ў лес наведацца.

Раніцою, яшчэ толькі світаць пачало, я ўжо на нагах быў. Пакуль дабраўся да лесу, на неба сонца выкацілася. Вялізны шар і бледны ўвесь, быццам серабрыстым інеем пасыпаны. Узрадаваўся вельмі. Бледнае сонца з раніцы — быць дажджу вечарам.

Мінуў невялікі бярозавы гаёк і на палянку ступіў. Іду паціху, пільна азіраюся. І раптам, як загіпнатызаваны, застыў на месцы. Ля невысокага трухлявага пянька густа раслі суніцы. Буйныя і спелыя, яны зіхацелі ў траве пунсовымі кроплямі.

Праз нейкі час назбіраў на палянцы маленькі кошычак ягад. Дамоў не пайшоў, бо захацелася яшчэ грыбоў пашукаць. Блукаў па лесе доўга, гадзіны са тры, але нават мухамора не сустрэў. Калі выйшаў на ўзлесак, ужо цёмныя калматыя хмаркі паплылі, гром пракаціўся.

Ат, такой біды! Прыйдзецца прызнацца Насці, што ўсе грыбы ад мяне пахаваліся. Карона з галавы не спадзе, як кажуць. Назбіраў сунічак — і то добра. Падумаў так і пачаў на дарогу выходзіць.

Ды шчасце не абмінула мяне. У нізенькім рэдкім вераску, крыху воддаль ад маладой кудлатай елачкі, згледзеў два баравікі. Адзін баравік большанькі, другі — яму па плячо. Цёмна-карычневыя капялюшыкі іх зрасліся, і здавалася, што баравікі сядзяць у вераску, абняўшыся.

Калі падыходзіў да вёскі, дождж паліў, як з рэшата. Цёплы і, як бальзам, гаючы.

Насця ўбачыла мяне ля хаты, выскачыла на двор.

— Янючка, які ты маладзец! І дождж з лесу прынёс, і сунічак таксама, — зашчабятала яна, як ластаўка.

— Во, паглядзі! Два баравікі яшчэ знайшоў, — пахваліўся я.

— Ай-я-я... Во дзе цуд! Дык твае ж баравікі цалуюцца! — дзівілася Насця.

— Ага, цалуюцца, — пагадзіўся я. — Ты яшчэ такіх не знаходзіла?

— Не, не прыходзілася.

Мы пагледзелі адно аднаму ў вочы і засмяяліся.

### ПОМНІК ЛЯ ДАРОГІ

Бярозы пры гасцінцы ўжо абтрасалі з сябе жоўтае лісце, а над вёскаю плыў густы пах яблыкаў.

На ўзбочыне дарогі стаіць ваструверхі помнік. На ім — пяцікутная зорка. Вакол помніка цвілі астры, красаваліся вогненна-чырвоныя вяргіні, радавалі вока позні гладыёлусы. На помніку надпіс: «Тут пахаваны невядомы савецкі баец, які загінуў пры вызваленні ў чэрвені 1944 вёскі Дубкі».

На лавачцы, ля помніка невядомаму герою, задумаўся. «Хто даглядае магілку? Чые гэта такія клапатлівыя рукі і добрае сэрца?»

Не ведаю, колькі прайшло часу, як ля помніка паявілася бабулька. Пластмасавае вядзерца, якое яна трымала ў руках, амаль да краёў было напоўнена вадою.

— Сонейка свеціць, як лецейка ўсё роўна назад вярнулася, — сказала яна. — Хачу кветачкі паліць, каб раслі, не вялі. Кожны дзень да салдаціка прыходжу. Можа, і сыночак мой, Паўлічак, дзесьці так ляжыць. Толькі васямнаццаць гадкоў было, як у сорак трэцім на вайну пайшоў. Адзін ён у мяне быў, адно і пісьмко прыслаў...

Твар старой скамянеў. Па шчацэ, дашчэнту зрэзанай глыбокімі баразнамі маршчын, пакацілася сляза.

Бабулька чэрпала кубачкам ваду і палівала кветкі. Раптам яна паставіла ля магілкі вядзерца, дастала з кішэнькі сукенкі акуратна звязаную вузельчыкам хусцінку. Дрыжачымі пальцамі развязала яе, і я ўбачыў там маленькую картку.

Я асцярожна ўзяў картку ў рукі. З яе глядзеў на мяне зусім школьнік. Худы твар, кірпаты нос. Голая, як бручка, галава. Адно вочы, вялікія, разумныя, глядзелі дапытліва і строга.

«Паўлічак, сыночак, дзе ты?» — шапталі бабульчыны вусны.



### І ГУСАКА СПАЛОХАЕЦЦА

Праз сем тыдняў пасля Вялікадня, перад самай Сёмухай, паехаў я на Вілію. На рыбалку.

З самага ранку ішоў цёплы дождж, але дзесьці праз гадзіну з-за хмар выглянула сонца, і па ўсім небе распасцёрлася каляровай дугой вясёлка.

Каля Даманава на беразе рэчкі ўбачыў знаёмага, дзядзьку Мікіту. Раптам ён спрытным рухам рвануў да сябе вудзільна. І вось на прымятым рэдкім дзяцельніку хаўкае, ловячы паветра, кідаецца ў бакі і з усяе сілы лупіць па зямлі хвастом вялікі цельпукаваты лешч.

— Дзядзька Мікіта! Ды вы, як бачу, першакласны рыбак! — не стрымаўся, узрадавана прагаварыў я.

— Калі шанцуе, то і дзеўка цалуе, — спакойна адказаў дзядзька Мікіта і зноў закінуў вуду.

Хутка і я выцягнуў ладную плотку. Праз некалькі хвілін укінуў у вядзерца невялікага, грамаў на сто, акунька.

— Во, для пачатку добра, малайчына, — пахваліў мяне дзядзька Мікіта.

Ужо хілілася да захаду сонца, калі мы з ніштаватым уловам вярталіся на аўтобусны прыпынак. Калі падыходзілі да Даманава, каля рэчкі пад дубам убачылі чырвоныя «Жыгулі». Каля іх на траве ляжаў салдат. Твар заросны густой шчэццю. Гімнасцёрка і штаны пакамечаныя. Здавалася, што яго зусім нядаўна хацеў праглынуць вярблюд, доўга жаваў сваю ахвяру, але не справіўся з ёю і назад выплюнуў, на траву.

Салдат спаў як пшаніцу прадаўшы. Ад храпу яго ажно прыгіналася долу густая зялёная трава.

З кабіны «Жыгулёў» высунулася маладзенькая дзяўчына. Убачыўшы нас, зачырванелася, тонкія дужкі-бровы ўздрыгнулі. Падскочыла да салдата і пачала катурхаць яго:

— Максім, уставай... Чуеш, на службу спознішся...

— Сінія вочы дзяўчыны, ажно затрымцелі доўгія падмаляваныя вейкі, наліліся шалёнай безвыходнай злосцю.

Максім, як спуджаны верабей, каўтануў ротам паветра і вытарашчыў на дзяўчыну зрэнкі вачэй. З яго твару градам пакаціўся пот.

— Не гарачыся, Жэня, — сіплым голасам выдавіў з сябе Максім. Каб не спатыкацца, трэба пад ногі прыглядацца. А ў мяне яшчэ п'янка не прайшла. Ці ты хочаш, каб маё пасведчанне забралі, а самога ў медвыцвярэзнік завезлі?

— Я ж казала табе: не пі, Максім. Не разумееш нічога. Можа, ты дурны, як той грак, — не пераставала хваляваць дзяўчына.

— Ну, чаго завялася, не кудахкай. Паспею яшчэ на тую службу. Нікуды яна ад мяне не падзенецца. А калі што якое, маці камандзіру пазвоніць. Затрымаўся, маўляў.

Максім зноў прылёг на траву. А дзяўчына хутка-хуценька заплюскала вачыма і, саромеючыся, засланіла рукамі твар.

— Во, смаркач, налізаўся, як вуж, і пра службу забыўся, — раптам сказаў дзядзька Мікіта, стомлена апускаючыся каля прыпынку на лаўку. — У гарадку сувязістам Максім служыць. Хаця якая тая служба. Што ні дзень — дома сядзіць, п'янствуе.

— Адкуль яго ведаеце, дзядзька Мікіта? — не стрымаўся, спытаў я.

— Максім — сусед мой, сын дырэктара ўніверсальнай базы Яўхіма Сарокі.

Памаўчалі, а потым дзядзька Мікіта павярнуўся да мяне, сказаў:

— Такі ваяка, як Максім, і гусака спалохаецца. Хіба няпраўду кажу?

Не пагадзіцца з дзядзькам Мікітам было нельга.

# Радзіма ўсёабдымная

Аркадзь РУСЕЦКІ

Амаль паўстагоддзя на паэтычным небасхіле гарыць зорка Генадзя Пашкова. На яго доўгім і не ва ўсім «ружовым» шляху было ўсё — і радасці, і засмучэнні. Але галоўнае, што на кніжных паліцах аматараў літаратуры адзін за адным з'яўляліся яго зборнікі, і не толькі паэтычныя. А яшчэ былі пераклады на беларускую мову вершаў рускіх, украінскіх, азербайджанскіх, армянскіх, таджыкскіх, латвійскіх аўтараў. Уласныя паэтычныя творы Г. Пашкова перакладзены на многія мовы свету. Ён лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1998). Перад важнай жыццёвай датай — 65-годдзем — мы пагутарылі з паэтам пра самыя розныя жыццёвыя праблемы.

**— Паважаны Генадзь Пятровіч! Гадоў 15 таму вы ў гутарцы з журналістам Мікалаем Брыксам выказаліся: «Я зусім звычайны чалавек...» Хацеў бы запытаць: а што гэты «звычайны чалавек» скажа пра пражытае і перажытае?**

— Пражытае праляцела так хутка, так імгненна, што цяжка згадаць перажытае... Вядома ж, яно было не толькі паэтычна-крылатым. Рознае здаралася... І ўсё ж святла было больш, чым змрочных колераў. А ад іх ніхто не абаронены. Нават паэт, бо ён звычайны на Зямлі чалавек, хоць імкнецца блукаць паміж зорамі.

**— А можна назваць тых, хто дапамагаў усталёўвацца добраму і пераадольваць дрэннае?**

— Найперш хачу згадаць светлай памяці маці Марыю Харытонаўну. Нарадзілася яна ў Гарадку на Віцебшчыне. Перад вайной закончыла Полацкае педвучылішча, працавала ў вясковай школе, акурат у тых мясцінах, дзе цяпер горад Наваполацк. Выйшла там замуж за будучага майго бацьку Пятра Трафімавіча. Калі пачалася вайна, у яе на руках было двое дзяцей — мой брат Эдзік і сястра Галя.

Калі пачаліся баі, пастаянныя бамбёжкі чыгункі, мой дзед Трафім сказаў нявестцы: «Бяры Галю ды ідзі з людзьмі на балота, там зацішней. А я з Эдзікам застануся тут. Што яны нам зробяць — я стары, а ён малеча». Так і зрабілі. Праз тры дні, калі фронт адкаціўся на Усход, вяскоўцы вярнуліся да сваіх сяліб. Маці знайшла на парозе хаты свёкра з прастрэленай галавой, а каля яго поўзаў сплаканы Эдзік. Праз колькі дзён хлопчыка не стала. Людзі казалі — змарнеў ад пярэпалаху. Пасля вайны ў сям'і з'явілася мая сястра Валя ды самы меншы я. Праўда, у мяне была яшчэ адна сястрычка — мая двайняшка. Ды памерла яна маладзёнькай. Усё гэта змрочныя факты, тужлівы боль душы.

На пачатку 50-х, знявечаны вайной, адышоў у іншы свет бацька. Перад тым наша сям'я пераехала на Гродзеншчыну, дзе патрэбны былі настаўнікі. Маці адкрывала для мяне свет чалавечага жыцця. Вядома ж, аберагала ад жорсткасці і нястачы, чаго, пры цяперашнім уяўленні, было тады ажно залішне. Яна паставіла ўсіх траіх дзяцей на ногі. На Смаргоншчыне нашу маму ўспамінаюць прыязна як настаўніцу, якая вучыла чытаць словы і складаць лічбы.

**— Паэзія, проза, пераклады, літаратура для дзяцей... Гэта вынік настойлівасці толькі Генадзя Пашкова ці ўсё ж было тое, што называецца «літаратурнае настаўніцтва»?**

— У творчым плане цёпла згадваю выкладчыка ўніверсітэта, вядомага паэта Алега Антонавіча Лойку, які вёў літаратурны гуртох «Узлёт». Ён аб'ядноўваў у творчую сябрыну такіх у будучым цікавых паэтаў, як Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў, Алена Руцкая, Віктар Ярац, Эдуард Зубрыцкі...

Нельга не згадаць чалавека, які багата зрабіў у маім творчым станаўленні — гэта выдатны паэт, кінадраматург Анатоль Вялюгін. Ён лічыцца паэтычным бацькам вялікай плеяды беларускіх майстроў слова. З Анатолем Сцяпанавічам мне пашчасціла працяглы час працаваць у часопісе «Полымя». Дарэчы, у тыя гады ў «Полымі» працавалі і такія знакамітыя пісьменнікі, як Кастусь Кірэенка, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Аляксей Русецкі, Генадзь Кляўко, Рыгор Шкраба. Што ні чалавек — асоба! Ці можа быць лепшы падарунак лёсу для маладога літаратара, як знаходзіцца поруч з такімі людзьмі.



Фота Кастуся Дробава

**— Як суседнічалі адказныя пасады, якія вы займалі, з паэтычнымі пошукамі?**

— Важна размежаваць службовыя абавязкі і ўласна-творчыя памкненні. Калі хочаце, нават раздваіцца... Вось днём ты шчыруеш на службе. Вечарам не да творчасці. А ноччу раптам падхопішся ад нейкага азарэння. Яшчэ ўва сне ўдарыць маланка выпадковага радка, і ты ўжо маеш у цемені, каб запісаць. Сам ведаеш, што праз хвілін пятнаццаць незапісаны радок знікае.

Таму заўсёды ля падушкі — нататнік і аловак.

**— Сёння многія б'юць трывогу: «Інтэрнэт губіць літаратуру!» Амаль кожны дзень, працуючы ў абласной бібліятэцы, я назіраю такую карціну: прафесіянальныя супрацоўнікі, утульны інтэр'ер, а ў кожнай чытальнай зале — 2, 3, 5 наведвальнікаў, прычым пенсійнага ўзросту...**

— Ад электроннай інфармацыі нікуды не ўцячэш. Прыгадваю, у маладыя гады зрабілі для творчай інтэлігенцыі экскурсію на завод, дзе выраблялся электронны «інтэлект». Агромністы агрэгат ледзьве змяшчаўся ў даволі вялікім памяшканні...

Сёння яшчэ больш «інтэлект» у сумачцы або кішэні карыстальніка. Сувязь па ўсім свеце! Добра ці кепска?

А ўсё ж веру: слова напісанае будзе жыць! У яго свая сіла! Сваё прыцягненне! Я шмат разоў быў удзельнікам розных міжнародных кніжных выставак-кірмашоў, бачыў мноства людзей, якія туды прыходзяць, купляюць кнігі. З уласнага досведу магу сказаць: самая вялікая магія — друкаванага слова.

У пакоі дома, дзе ў мяне бібліятэка, я адчуваю сябе нібы ў храме: кожная кніга, кожнае слова выпраменьваюць энергію, якую ўспрымае душа. «Халодны» інтэрнэт гэтага не заменіць.

**— Калі можна, спытаю пра асабістае. Генадзь Пятровіч, ваша сямейнае жыццё можна лічыць узорным?**

— Шчыра прызнацца, я не ведаю, што такое «ўзорная» сям'я. Гэта што? Не стаць адно аднаму насуперак? Немагчыма! У кожнага ёсць сваё «Я», і на рэчы глядзім адпаведна. Ідэальная згода — нерэальная! Іншая справа: пры ўсім сваім «Я» саступіць месца «Ты», адступіць ад сваёй зацятасці. Хвала Богу, што жонка валодае гэтымі якасцямі.

**— Вёскі Ліпавічы ў Чашніцкім, Войстам у Смаргонскім раёне, нарэшце, сталічнае жыццё. Што ж у вашай біяграфіі найбольш прыжылося?**

— Чашніцкія Ліпавічы... Войстам на Смаргоншчыне... Ведаеце, гэта ўсё дарага. На Чашніцкай зямлі пахаваны мае прадзеды, мае брацік і сястрычка... На Смаргоншчыне на Старых могілках цяперашняга аграгарадка Войстам спачываюць вечным сном мой бацька Пётр Трафімавіч і маці Марыя Харытонаўна...

Я шмат дзе ўсё сэрца пабываў. Адкрыў для сябе Палессе, адкуль мая жонка, і дачка Наташа там нарадзілася. Я закахаўся ў гэты дзівосны край. Не зусім разумею выказванні «малая Радзіма», «Радзіма вялікая»... Для мяне Радзіма — усёабдымная!

# З гісторыяй заручаны



Фота Кастуся Дробава

**Уладзіміру Мехаву спаўняецца 85 год. Папраўдзе, адчуваю нерашучасць перад тым, якое азначэнне ўжыць першым перад гэтым імем. Журналіст? Кінадраматург? Пісьменнік? Зрэшты, ён і сам прызнаецца: «Выдаў паўтара дзясятка кніг, пісаў п'есы, з сямнаццаці гадоў друкуюся як журналіст. Але назаўсёды пасябраваў з кіно! Дык, можа, усё было наадварот? — разам з працай у кіно я ўсё жыццё займаўся журналістыкай і пісаў кнігі...»**

Такіх асоб называюць універсальнымі. Звычайна яны прыходзяць у часы вызначальных, пераломных этапаў гісторыі краіны і чалавецтва (постаці еўрапейскага Адраджэння XIII — XV стст., беларуская нацыянальнага руху пачатку стагоддзя XX...). Пры адлігах-застоях-адбудовах-перабудовах яны — рэдкасць. Больш за гістарычныя ўмовы іх ствараюць лёс, паходжанне, абставіны, уласныя здольнасці і светапогляд.

«У снежні 1945 г., студэнтам першага курса аддзялення журналістыкі, я быў залічаны ў штат газеты «Літаратура і мастацтва». Мне нават не было 18 гадоў. Адбылося гэта так. Бацька мой, былы адказны сакратар «Советской Белоруссии», загінуў на вайне. Я звярнуўся да яго сяброў па дапамогу і атрымаў запіску да тагачаснага галоўнага рэдактара «ЛіМа» Аркадзя Куляшова з просьбай узяць мяне якім-небудзь падчытчыкам ці бібліятэкарам. А тады ў «ЛіМе» працавалі Алесь Кучар, Анатоль Вялюгін, Рыгор Смоляр — класікі! Яны вялікія матэрыялы пісалі, а трэба ж было камунебудзь інфармацыю даваць. Таму мяне адразу ўзялі літаратурным супрацоўнікам. Нічога не ўмеў, але вучыўся».

Пасля заканчэння журфака Уладзімір Львовіч 10 гадоў працаваў у «Чырвонай змене»: літаратурным работнікам, загадчыкам аддзела, удзельнікам і адным з кіраўнікоў літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі. «Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Іван Калеснік, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша — усіх гэтых хлопцаў я памятаю маладымі пачаткоўцамі».

Потым, пасля нядоўгай (спачатку!) працы на радыё, было яшчэ 13 гадоў у «ЛіМе»: загадчыкам аддзела публіцыстыкі і адказным сакратаром. Час быў складаны, нервовы. Цэнзура, даносы... Аднойчы давялося і пайсці з пасады — «па ўласным жаданні». «Два гады нідзе не працаваў. Але ж сям'я!.. Ды толькі не займаўся: пісаў тэксты для кінахронік, ездзіў выступаць ад бюро прапаганды... Кніжкі якраз выходзілі...»

«Кніжкі» — асобная тэма. Літаратурныя творы Уладзіміра Мехава здзіўляюць узроўнем. І дзіўна, што яны не перавыдаюцца сёння, калі займальныя сюжэты ў больш ці менш годнай апрацоўцы — на вагу золата. А калі апрацоўка звышгодная — адметны стыль, вытанчаная мова, цэласнае ўражанне, адкрыццё раней не знаных даляглядаў або цікавы напамін пра добра знаёмае, але падзабытае?! І гэта толькі некалькі рыс гістарычных аповесцей Уладзіміра Мехава — такіх, прыкладам, як «Старадаўняя гравюра» і «Кузёмка Дубанос — цароў камедыянт». Здавалася б, ну якая гэта гісторыя: беларусы ў тэатры пры двары маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча? Але — гісторыя: побыт, характары, лёсы продкаў, іх след у гісторыі культуры суседніх народаў. «Вычытаў недзе факт, што першымі акцёрамі на Русі былі перасяленцы з Беларусі. Гэта мяне зацікавіла. Пачаў чытаць гістарычную, тэатразнаўчую літаратуру, працаваць у архіве...»

Адпаведная «метода» паспрыяла і ў супрацоўніцтве з кіно. «Я — з тых літаратараў, якія працуюць у кінадакументалістыцы ахвотна, з радасцю. З асалодай шукаю ў рудзе матэрыялу зярняты каштоўных для будучага сцэнарыя фактаў. Шчаслівы, калі сабранае ў блакнотах пачынае адно з адным злучацца». Факт, Асоба, Лёс — вызначальная трыяда цікавасці, дзякуючы якой пачыналі збірацца «зярняты» больш дробнай фактуры. Паказальна, што шэраг фільмаў аб'ядноўваўся ў цыклы: першы вызначальны факт вымагаў усё больш і больш плённай даследчыцкай працы, з ім звязваліся новыя і новыя прыцягальныя лёсы («Вуліцы бяссмерця», «Нарадзіўся я ліцвінам», «Зорнае прыцягненне»). Пра цяжка ўспрымальную сёння асобу Правадыра ўсіх народаў таксама быў створаны кінацыкл. На пачатку 1990-х Уладзімір Мехаў сказаў пра яго: «Ведаць мінулае трэба абавязкова. І ведаць у поўнай праўдзе, а не ў яе кавалках і аспектах», — такі ўрок дакументальных кадраў мехаўска-цвятлоўскай Лeніньяны.

Трынаццаць гадоў аддаў Уладзімір Мехаў працы на радыё, стварыўшы за гэты час серыю легендарных перадач-гутарак з вядомымі людзьмі Беларусі — артыстамі, пісьменнікамі, музыкантамі. Прыгледзімся да гэтага прафесійнага і жыццёвага шляху — і ўбачым пэўную адпаведнасць, амаль сімвалічную: журналісцкае, пісьменніцкае, драматургічнае Слова, на радыё — Голас... Нязменная прыхаванасць асобы, якая пазначана не сціпласцю, а, наадварот, знакам стрыманай годнасці. Калі ёсць усведамленне, што Слова і Сэнс значаць больш, чым Вобраз, а Голас — больш, чым Водгалас, нават калі гэта водгалас Славы.

Таццяна СТУДЗЕНКА

*Паралелі*

# Пісьменнік — перакладчык — пісьменнік

Пра аўтараў і перакладчыкаў мастацкай літаратуры можна разважаць бясконца. Сцвярджаць, што яны — як агонь і дым, адзін без аднаго не могуць існаваць, або наадварот, цытуючы вядомае выслоўе, даказваць, што чытаць мастацкі твор у перакладзе — усё роўна што цалавацца праз шкло. Але калі адвабіцца ад агульных разважанняў і зірнуць на справу з больш рэалістычнага пункту гледжання: што прыносіць пераклад у жыццё аўтара? Як сам аўтар ставіцца да твора, які ўжо напісаны на іншай, часам незразумелай самому пісьменніку мове? Кім для яго з'яўляецца перакладчык: сябрам, супернікам, суаўтарам? Менавіта з гэтымі пытаннямі я звярнулася да замежных пісьменнікаў, чые кнігі перакладаліся на розныя мовы і так ці інакш былі прэзентаваныя беларускаму чытачу.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара і з інтэрнэт-сайтаў**



**Келі АРМСТРОНГ** (Канада), паводле версіі газеты *The New York Times* яе раманы займаюць першае месца ў рэйтынгу бестселераў, кнігі перакладаюцца на многія мовы свету, выдаваліся і ў Беларусі:

— Пераклад — гэта нешта яркае і выдатнае. Я ніколі нават не ўяўляла, што мае гісторыі будуць падарожнічаць так далёка ці выклічуць цікавасць людзей у іншых краінах. Мне падабаецца разглядаць выданні перакладаў маіх раманаў, і вельмі шкада, што не магу іх прачытаць.

Перакладчык для мяне — хутчэй суаўтар. І я ніколі пра гэта не думала і не разважала, але неяк пагутарыла з адным з маіх перакладчыкаў і зразумела, што ім патрэбна зрабіць нашмат болей, чым проста перакласці словы на старонцы. Спалучэнні слоў ці жарты, якія я выкарыстоўваю, не заўсёды лёгка перадаць на іншай мове. Перакладчыку трэба перапрацаваць маю мову, зрабіць яе зразумелай зусім іншай аўдыторыі, але ў той жа час не «заглушыць» і мой голас. Гэта проста адметны талент.



**Поль КАНСТАН** (Францыя), на рускую мову перакладзены яе раман «Мёд і лёд»:

— Пераклад можа прывесці аўтара ў вельмі дзіўны стан. Вы гледзіце на сваю кнігу і ўсведамляеце, што вам забаронена яе чытаць: вы нічога не зразумееце. Гэта досыць цікавы стан. Нібыта ты развучыўся чытаць, глядзіш на кнігу і разумееш, што ўсе гэтыя знакі, літары для цябе больш нічога не значаць.

Глядзіш на твар свайго перакладчыка, асабліва калі гэта маладая дзяўчына, і думаеш: ці не надта яна маладая, каб зразумець, што я магу напісаць, што я маю на ўвазе. Глядзіш на вокладку сваёй жа кнігі ў перакладзе і думаеш: ці пісала я пра гэта? Але бачу: вунь там мой сабачка, і разумею, напэўна, гэта ўсё ж такі мой раман. Вельмі важная частка ўзаемаадносін паміж перакладчыкам і аўтарам — пачуццё гумару ў майго перакладчыка, бо на замежнай мове гэты аспект твора часам досыць цяжка зразумець.



**Хрысціян ГАРСЭН** (Францыя), рускамоўныя пераклады яго раманаў «Палёт паштовага голуба» і «Карнавал лёсу» пабачылі свет у Беларусі:

— Я лічу, што пераклад — вельмі важная частка літаратурнага жыцця любога аўтара. Для мяне вялікая радасць і вялікі гонар ведаць, што ёсць беларускія выдаўцы, якія лічаць, што нашы кнігі можна перакладаць і выдаваць, якія творам, напісаным у іншай краіне, даюць новае жыццё. Нават можна сказаць, гэта іншы пункт гледжання, іншы ракурс успрымання рэальнасці, якую мы апісваем.

Часта кажуць, што літаратура не мае межаў, але, у прынцыпе, адна мяжа ёсць — гэта мова. І я нават сказаў бы, што агульнае паняцце сусветнай літаратуры было прыдумана самімі перакладчыкамі. Гэта свет, у якім яны жывуць. Перакладная літаратура — агромністая крыніца энергіі мовы, на якой яе пераствараюць. Гэта магутная крыніца развіцця нацыянальнай літаратуры. Чым бы стала французская літаратура без перакладзенай на французскую мову англійскай, рускай класікі, класікі іншых краін? Перакладная літаратура становіцца найважнейшым мостам паміж пісьменнікамі з розных краін, і ў гэтым выпадку я сказаў бы, што сусветная літаратура складаецца з трох частак: пісьменнік, перакладчык і іншы пісьменнік.



**Анкур ДАХІЯ** (Індыя), яго дэбютны раман «Яшчэ цнатлівы ў 20?!!?» у беларускім перакладзе хутка пабачыць свет у Выдавецкім доме «Звязда»:

— Эмоцыі і пачуцці аднолькавыя для ўсіх людзей, няважна, на якой мове яны размаўляюць. Мова — проста сродак выказвання думак аўтара. Таму, калі напісаць «гэты чалавек шчаслівы», значэнне паняцця не зменіцца ў залежнасці ад мовы. Пісаць і перакладаць кнігі — розныя рэчы, кожная з іх мае сваё значэнне і важнасць. Таму лічу, што аўтар і перакладчык падзяляюць прафесійныя абавязкі.



**Сінція ЛОРД** (ЗША), яе кніга «Правілы, не здымай штаны ў акварыуме» ў рускамоўным перакладзе была прадстаўлена падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу:

— Успрымаю пераклад як сваю кнігу, але часам у працэсе перастварэння на іншай мове твор можа крыху змяняцца. Здараецца, сэнс можа быць зменены. У кнігі заўсёды новая вокладка, і калі бачыш раман у перакладзе — гэта зноў як першая сустрэча са сваёй жа кнігай.

Перакладчык для мяне — калега, суаўтар, хоць я вельмі рэдка атрымліваю ад іх нейкія весткі. Мая кніга «Правілы» (у арыгінале твор мае менавіта такую назву) была перастворана на 10 мовах, і падчас працы я кантактавала толькі з перакладчыкам на італьянскую. Ён не мог зразумець аўтарскую задуму ў некалькіх абзацах і пісаў, каб удакладніць сэнс. Гэта было для мяне гонарам. Пазней мы пасябравалі і час ад часу перапісваемся. Але гэта адзіны выпадак. У цэлым жа выдатна мець пераклад свайго рамана. Гэта значыць, што кніга атрымае цалкам новую аўдыторыю.

*За падзеяй*

## Сустрэча-свята

Для студыі юных літаратараў пад гучнай назвай «Малінаўскія галасы», створанай па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі на базе сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 15, стала добрай традыцыяй сустракаць творчых гасцей.

**Ганна СТАРАДУБ**

Гэта вядомыя шырокаму колу чытачоў пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Наталля Касцючэнка, Алесь Бадак, Рагнед Малахоўскі, Дзмітрый Пятровіч, Дзмітрый Дземідовіч. Таксама — будучыя графікі і мастакі, выхаванцы гімназіі-каледжа імя І. В. Ахрэмчыка, якія з вялікім задавальненнем ладзяць тэматычныя выстаўкі ў бібліятэцы.

Нядаўна гурткоўцы разам з чытачамі і супрацоўнікамі кніжніцы віталі пісьменніка, паэта, барда Юрася Нератка.

Вядучая імпрэзы паэтэса Іна Фралова — творчы кіраўнік гуртка «Малінаўскія галасы» — працытавала радкі з верша Юрася Нератка «Мая вёска, мае Хадакі» і прапанавала госцю падзяліцца ўспамінамі пра блізкія сэрцу мясціны.

Гучалі вершы ў выкананні аўтара з часам нечаканым, але арыгінальным музычным аздабленнем.

Да ўвагі аўдыторыі быў прадстаўлены сюжэт кнігі «Закуцце». Аўтар эмацыянальна распавядаў пра неверагодныя з'явы, віртуальную рэальнасць, пра алхімію і альгемонаў — містычных персанажаў.

Юрась Нератак не толькі шчыра адказваў на пытанні вядучай і тых, хто прыйшоў пазнаёміцца з яго творчасцю, але і сам задаваў пытанні прысутным, а часам нават даваў парады маладым літаратарам.

Паводле гуртгоўцаў Наталлі і Марыі Кочатавых, сустрэча неўзабаве ператварылася ў сапраўднае свята паэзіі і песні.

*Да слова*

## Душа народа

**Надзея ПАРЧУК**

Учора ў нашай краіне, як і ва ўсім свеце, адзначаўся Сусветны дзень паэзіі. З гэтай добрай нагоды творчыя людзі ды іх прыхільнікі сабраліся разам, каб у чарговы раз на гадзіну-другую душой і сэрцам акунуцца ў чароўны свет слоў, музыкі і прыгожых пачуццяў.

Пра саму паэзію выдатны рускі паэт Мікалай Някрасаў калісьці сказаў наступныя словы, якія ў наш час сталі афарызмам: «У душы кожнага чалавека ёсць клапан, які адкрываецца толькі паэзіяй...»

Паэзія выбірае сабе здольную асобу, абуджае яе душу і наражае ў ёй прыгожыя пачуцці, якія затым выліваюцца ці вырываюцца на свет і называюцца вершамі. Гэта значыць Паэзія «стварае» Паэта.

Чаму літаратурнае свята стала сусветным? Ды таму, на маю думку, што паэзія, як і сам Сусвет, — бязмежная, бяздонная, неабдымная, спрадвечная, як неба, як зоры, як веліч прыроднай красы, як паветра, якім не надыхацца, як само жыццё, якім не наталіцца. Гэта, нарэшце, адзін з найцудоўнейшых жанраў мастацкай літаратуры, дзе гарманічна спалучаюцца прыгажосць слоў, меладычнасць гукаў, рытміка, глыбокія думкі, высокія мары і, як правіла, узвышаныя, кранальныя чалавечыя пачуцці ды памкненні.

Часта можна пачуць: песня — гэта душа народа. А па-мойму, сам паэт — душа народа, душа і сумленне нацыі, а песня — гэта вынік яго творчай працы, яго розуму, душы.

# Нараджэнне спектакля



29, 30 і 31 сакавіка Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі прадставіць чарговую прэм'еру юбілейнага, 80-га, сезона — «Шчаўкунок, альбо Яшчэ адна Калядная гісторыя» на музыку Пятра Чайкоўскага. Адзін з самых знакамітых балетаў у свеце ставіць санкт-пецярбургскі харэограф Аляксандра Ціхамірава. На яе рахунку — пастаноўкі больш як пяцідзесяці спектакляў у тэатрах Расіі і Прыбалтыкі. Аднак вось ужо другі год Аляксандра пастаянна жыве ў Мінску і працуе з беларускай балетнай трупай. Напярэдадні новай прэм'еры балетмайстар адказала на пытанні карэспандэнта «ЛіМа».

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ,**
**фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета**

**— Існуе шмат версій «Шчаўкунка». Над гэтым спектаклем працавалі такія знакамітыя харэографы, як Васіль Вайнонен, Аляксандр Горскі, Юрый Грыгаровіч... Што для вас самае важнае ў гэтай казцы?**

— Не выпадкова наш спектакль мае падзагаловак «Яшчэ адна Калядная гісторыя». Такая назва гаворыць пра тое, што ёсць мноства рэдакцый «Шчаўкунка», што ў кожнага харэографа свой погляд на гэты балет. Для мяне гэта таксама асабістая гісторыя, можа быць, яна нават не столькі пра самога Шчаўкунка, колькі пра дзяўчынку Машу і яе сталенне. Наша пастановачная група імкнецца адлюстраваць уяўленне пра гэты матэрыял і харэаграфічнымі, і мастацкімі сродкамі. Дарэчы, я думаю, вельмі здзівяць публіку сцэнаграфія і касцюмы, створаныя знакамітым мастаком Юрыем Куперам. Гэта надзвычай таленавіты чалавек з унікальнай уласцівасцю: у яго творчасці адначасова адчуваюцца і традыцыя, і сучаснасць. Так што, спадзяюся, казка ў нас павінна атрымацца. Цяпер ідзе самая актыўная праца: рыхтуюцца дэкарацыі і касцюмы, праходзяць рэпетыцыі з артыстамі. Спектакль нараджаецца ў рэпетыцыйнай зале.

**— Вам больш зручна з працавітым артыстам або з таленавітым?**

— Добра і з тым, і з тым. Галоўнае, каб людзі разумелі: патрабаванні, якія да іх прад'яўляюцца, абумоўлены выключна прафесійнай планкай. У нас прафесія вельмі складаная: калі ты ў рэпетыцыйнай зале нечага не дарабіў, на сцэне цуду не адбудзецца. Балет — гэта фізіка цела, як і спорт. Твой арганізм павінен быць пастаянна ў форме, а падтрымліваць яе можна толькі штодзённай працай. Выдатна, калі артыст і таленавіты, і працаздольны, і цікавы як асоба. Цяжка, калі амбіцыі бяруць верх і людзі неадэкватна сябе ўспрымаюць. Але крытэрый у нашай справе толькі адзін — той вынік, які артыст дэманструе на сцэне. Я вельмі радуюся, калі ў танцоўшчыкаў усё атрымліваецца, заўсёды стараюся зрабіць так, каб ім было зручна ў пастановачным працэсе і ў спектаклі. Часта прымушаю артыстаў нешта чытаць, глядзець, задаю каверзныя пытанні, увогуле, стараюся абудзіць іх фантазію і прымусіць працаваць не толькі цела, але і галаву. Я лічу, што танцоўшчык павінен быць інтэлектуальным чалавекам.

**— Падчас працы над новым спектаклем ці атрымліваецца хоць калі-небудзь «выключыць» у галаве думкі пра прэм'еру і адпачыць?**

— Стварэнне новага спектакля — гэта займальны працэс, аднак ён вельмі «вымотвае». Настолькі, што не можаш нармальна спаць. Ты быццам бы спіш, але гэты сон непаўнавартасны: музыка ўсё роўна ў цябе дзесьці ў падсвядомасці гучыць. І гэты працэс немагчыма спыніць. Каб неяк пазбавіцца ад гэтых думак, люблю прайсціся пасля рэпетыцыі, пачытаць, нешта прыгатаваць або нават проста памыць посуд. Калі працуеш рукамі, галава адпачывае. Але ўсё роўна я вельмі люблю рэпетыцыйны працэс — гэта ж шчаслівы час. Жыццё настолькі хуткаплыннае, здавалася б, мы імкнёмся да нейкай падзеі, але насамрэч не варта гэтага рабіць, трэба атрымліваць асалоду ад кожнай секунды, якой бы складанай яна ні была. Пасля прэм'еры ў артыстаў і пастаноўшчыкаў зусім розныя пачуцці. Для танцоўшчыкаў пасля першага спектакля ўсё толькі пачынаецца, а для мяне пэўны этап жыцця ўжо скончыўся. Падобнае адчувае маці, калі яе дзеці вырастаюць і сыходзяць з дому ў дарослае жыццё.

**— Якімі сваімі «дзецьмі» вы асабліва ганарыцеся?**

— Я ставіла спектаклі і ў драматычным тэатры, і ў оперы, і ў аперэце. Як і дзеці, усе тэатральныя працы для мяне аднолькава любімыя. Але ёсць этапныя, знакавыя. Гэта і пластычны спектакль для драматычных акцёраў «Гогальсюіта» ў Пушкінскім тэатральным цэнтры ў Санкт-Пецярбургу, і «Меса» на музыку Бернстайна ў Латвіі, і опера «Рыгалета» ў Марыінскім тэатры, і харэаграфічная карціна «Палавецкія скокі» з оперы «Князь Ігар», якую я ставіла ў Екацярынбургу, і мюзікл «Рускі фантом» у Іркуцкім музычным тэатры, і, канечне, опера «Снягурка» у Вялікім тэатры Беларусі.

# Творчая спадчына неўміручая

10 сакавіка пайшоў з жыцця заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, кавалер Ордэна Францыска Скарыны, удзельнік Другой сусветнай вайны Барыс Аракчэеў.



*Барыс Аракчэеў «Аўтапартрэт».*

Урачыстае развітанне з майстрам прайшло ў Беларускім саюзе мастакоў. Сябры, калегі, вучні ўшанавалі яго памяць кветкамі і добрымі словамі. Памёр чалавек, але творчая спадчына мастака неўміручая: імя Б. Аракчэева назаўсёды ўвайшло ў лік вядучых майстроў сусветнага выяўленчага мастацтва.

Больш як паўстагоддзя майстар пэндзля Б. Аракчэеў ствараў непаўторныя сюжэтна-тэматычныя палотны, на якіх занатоўваў прыгажосць навакольнага свету, перадаваў рытмы часу, увасабляў вобразы выбітных беларускіх грамадскіх і культурных дзеячаў, сучаснікаў. Прысвечаныя Грамадзянскай і Другой сусветнай войнам палотны «Этапы вялікага шляху», «Брэсцкая крэпасць», «Гродзенскія гусары. Атака ў Кляцціцах», «Чырвоны сцяг», «Партызанская сям'я», пейзажы «Апускаецца ночы крыло», «Веснавыя вятры», «Зямля Заслаўская», «Хлеб», «Гарачая пара», серыі партрэтаў-карцін «Народны пясняр. Якуб Колас», «Адроджаны край. П. М. Машэраў», «Юнацтва» (партрэт жонкі Галіны), «Венера і бэз», нацюрморты «Бэз ля студні» і іншыя характарызуюць асноўныя перыяды творчага развіцця майстра, дазваляюць прасачыць яго мастацкі шлях.

Б. Аракчэеў з'яўляецца адным з аўтараў дыярамы «Мінскі кацёл» для Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску.

Мастацтва Б. Аракчэева насычанае жыццёвымі назіраннямі, багатае і шматпланавае. Манументалізм яго работ заключаецца не толькі ў якасці формы, але і ў выяўленні сутнасці ўспрымання велічы прыроды і чалавека. Творца дасягнуў цэльнасці жывапісу, духоўнай канцэпцыі вобраза, эмацыянальнага зараду пісьма, прынёс у беларускае мастацтва трывалыя рэалістычныя традыцыі, тонкае паэтычнае ўспрыманне беларускай прыроды, самастойную жывапісную мову. Гістарычнае, філасофскае мысленне Б. Аракчэева, глыбіня духоўнасці, чысціня маральных прынцыпаў склалі аснову яго культуры. Грамадзянская пазіцыя спалучалася з чалавечай чуласцю, глыбокай гуманнасцю, давала тую сілу праўды, моц мастацкага аналізу, якія так выразна і пераканаўча праяўляліся ў яго творах — нездарма работы майстра знаходзяцца не толькі ў шматлікіх музеях Беларусі, фондах БСМ і Міністэрства культуры Беларусі, але і ў фондах Міністэрства культуры Расіі, Украіны, Музеі сацрэалізма ў Нью-Ёрку (ЗША), прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Італіі, Францыі, Германіі, Польшчы, Англіі, Канады, Сербіі, Галандыі.

Б. Аракчэеў паспяхова сумяшчаў творчасць з педагагічнай дзейнасцю, з'яўляючыся выкладчыкам спачатку Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. Глебава, потым — кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Падрыхтаваў і выпусціў у творчы свет не адно пакаленне выбітных мастакоў. Вядомыя як у Беларусі, так і за яе межамі майстры А. Кузьміч, У. Кожух, Ф. Янушкевіч і іншыя з удзячнасцю і павагай згадваюць свайго настаўніка.

Майстар, які да апошняга часу трымаў у руках пэндзаль, пакінуў пасля сябе нашчадкаў, вартых вядомага прозвішча: дынастыя Аракчэевых з годнасцю працягвае традыцыі яе заснавальніка. На працягу ўсяго жыцця Музай мастака была яго жонка Галіна. Разам яны вырасцілі трох дачок, якія таксама выбралі творчы шлях. Па слядах дзеда пайшоў і ўнук Міхаіл: скончыўшы акадэмію мастацтваў, ён паспяхова працуе ў сферы дызайну, аформіў кнігу пра Б. Аракчэева. Шкада, што сам мастак, хаця і трымаў у руках макет кнігі, не дачакаўся яе афіцыйнага выдання.

**Галія ФАТЫХАВА**

# Букет пачуццяў

**Галія ФАТЫХАВА**

У Музеі гісторыі горада Мінска адкрылася персанальная выстаўка Ларысы Зарубінай «Букет для Марыі», якая складаецца з напісаных за апошнія 5 год кампазіцый з кветкамі, прысвечаных маці мастачкі Марыі Осіеўне.

Кожную восень Л. Зарубіна бярэ ў рукі пэндзаль і стварае кампазіцыю-дыялог, якую прысвячае маці. Таму нацюрморт для яе — не проста намаляваны букет з кветак, але магчымасць перадаць свой унутраны стан, раскрыць свет гармоніі прыроды і чалавека.

Таксама ў экспазіцыі прадстаўлены архітэктурныя пейзажы Мінска, Нясвіжа і г. д., бо ў падарожжы Л. Зарубіна заўсёды бярэ мальберт, каб занатоўваць мясціны, якія ёй спадабаліся. Работы «Вязынка», «Дом-музей М. Багдановіча ў Ракуцёўшчыне» адметныя кालेравай напружанасцю без бачнай фарсіраванасці кожнага асобнага колеру. Цэльнасць усяго выяўленчага шэрагу, іх «сфакусіраванасць» — сведчанне яснага разумення аўтарам сэнсу той працы, дзеля якой яна стаяла ля палатна. Мастачка не проста назіральнік — яна інтэрпрэтуе бачную прастору праз прызму сваіх пачуццяў. Замкі Беларусі, знакамітыя гістарычныя мясціны цікавяць яе з боку эмацыянальнага ўспрымання помніка, яго сувязі з месцам, прыродай, гісторыяй, легендай, яна нібы «праламляе» архітэктурны будынак праз сябе.



*Ларыса Зарубіна «Сланечнікі».*

Л. Зарубіна ўвесь час эксперыментуе. На дадзены момант у сваіх творчых пошуках мастачка перайшла ад рэалістычнага кірунку да экспрэсіўнага жывапісу, які ў большай ступені адпавядае яе характару і эмоцыям.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцэра»**

## *Слова краязнаўцы*



**Вера БЕЛАКОЗ, галоўны захавальнік фондаў Гродзенскага музея Максіма Багдановіча, ведае, як зацікавіць музеем і экспазіцыяй:**

— У нас распрацаваны пазнавальныя экскурсіі для дзяцей розных узростаў. Напрыклад, для малодшых праводзім экскурсію, падчас якой прапануем ім гульні, забавы, паказваем цацкі, з якімі, магчыма, гуляў маленькі Максім. Паралельна хлопчыкі і дзяўчынкі вывучаюць новыя беларускія словы, выконваюць самыя розныя заданні.

Ёсць таксама занятак «Старая кватэра». Наведвальнікі ўважліва разглядаюць мемарыяльныя пакоі, а экскурсавод тым часам распавядае пра мэблю канца XIX — пачатку XX ст., а таксама згадвае прадметы побыту таго часу. Потым яны тое, што запомнілі, узнаўляюць. Спецыяльна падрыхтаваны план кватэры і малюнкі з выявай прадметаў, якія былі прадстаўлены. І дзеці павінны ўсё расставіць па сваіх месцах. Каб малыя лепш запаміналі новы матэрыял, прапануем гульню «Чароўны мяшэчак». У мяшэчку ляжаць старадаўнія рэчы, і дзеткі навобмацак, з завязанымі вачыма павінны здагадацца, што там.

Вельмі цікавая і папулярная тэатралізаваная экскурсія для самых маленькіх наведвальнікаў «Марыя Апанасаўна запрашае», якая праводзіцца з 2010 года. Яе ў свой час распрацавала Людміла Абраменка, былы галоўны захавальнік фондаў музея. Экскурсавод — «маці» Максіма — сустракае гасцей і сыходзіць, пакуль нехта з супрацоўнікаў тлумачыць дзеткам, хто перад імі і што адбываецца. А потым служка Дарка — у Марыі Багдановіч насамрэч было дзве служкі — кліча гаспадыню. Марыя Апанасаўна расказвае пра дом, сям'ю, дэманструе фотаздымак, дзе яна разам са сваімі дзеткамі. Таксама маці Максіма Багдановіча прадстаўляе сваё апавяданне «Напярэдадні Каляд». А напрыканцы частуе прысутных гарбатай з зёлак, якія яна сама збірала. Тут зноў жа дастае фотаздымкі, гартае сямейны альбом. Гэтым часам да яе ў госці прыходзіць сяброўка, і разам з Марыяй Апанасаўнай яны праводзяць гульню «фанты». Для вучняў старэйшых класаў таксама распрацаваны аглядныя і тэматычныя экскурсіі.

У музеі можна даведацца не толькі пра творчасць Максіма Багдановіча, а і паглыбіць веды пра гарадзенскіх пісьменнікаў і творцаў, чый лёс быў звязаны з горадам: Аляксея Карпюка, Васіля Быкава, Міхася Васілька. Заняткі і экскурсіі пабудаваны такім чынам, што ў музей можна прыходзіць неаднойчы — і кожны раз даведвацца нешта новае.

## *Цікава ведаць*

# ...І малітоўнік XVIII стагоддзя

**Міра ІЎКОВІЧ**

Музей гісторыі праваслаўнай культуры з'явіўся ў Жлобіне. Новая ўстанова пачала працаваць на базе гарадской агульнаадукацыйнай школы № 12, педагогі і вучні якой выступілі з ініцыятывай па яго стварэнні.

Аснову музея склалі краязнаўчыя выданні па гісторыі праваслаўя ў Жлобінскім раёне, малітоўнік XVIII стагоддзя, абраз святога Георгія Перамаганосца, дакументы пра жыццё і служэнне царкве былога плябана Жлобінскага Свята-Траецкага прыхода мітрафорнага протаіерэя Кастуся Манько, а таксама сучасныя тэматычныя краязнаўчыя матэрыялы.

Фарміраванне фондаў толькі пачалося, таму стваральнікі музея гатовы прыняць рарытэты, цікавыя дакументы і іншыя матэрыялы, не абмяжоўваючыся толькі адным раёнам.

## *Музейны ўнікат*

# Сведкі спартыўных подзвігаў



*Срэбны алімпійскі медаль Аляксандра Папова.*

Летась у Беларусі з'явілася яшчэ адна ўнікальная ўстанова — Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, які адкрыўся 22 чэрвеня 2012 года з удзелам Кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі. За гэты перыяд тут пабывала каля дзвюх тысяч чалавек, у тым ліку і замежныя госці.

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

Экспазіцыя, якая не мае аналагаў на постсавецкай прасторы, спалучае ў сабе новыя метады дэманстрацыі і самыя сучасныя мультымедыйныя тэхналогіі. У пяці залах прадстаўлена каля 800 экспанатаў. Канцэпцыя музея прадугледжвае пастаяннае абнаўленне экспазіцыі, якая адлюстроўвае актуальныя падзеі, што адбываюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Музейны паказ не адстае ад жыцця беларускага грамадства і радуе наведвальнікаў навізной і глыбокім зместам.

Падчас прэзентацыі ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці прадстаўнікам СМІ былі паказаны новыя паступленні, якія сведчаць пра спартыўныя дасягненні і развіццё беларускага спорту. Прысутныя змаглі ўбачыць першы ў гісторыі Беларусі срэбны алімпійскі медаль, які заваяваў біятланіст Аляксандр Папоў на XVI зімовых Алімпійскіх гульнях 1992 года ў эстафетнай гонцы.

— Аляксандр Папоў — вядомы беларускі біятланіст, алімпійскі чэмпіён Калгары 1988 года, заслужаны майстар спорту і заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь, кавалер ордэна «Знак Пашаны» і медаля «За працоўныя заслугі», — распавёў выконваючы абавязкі загадчыка музея Сяргей Ісаковіч. — Экспазіцыю папоўніў і залаты медаль Паралімпіяды-2012 у Лондане, які заваяваў 18-гадовы плывец Ігар Бокі. Дарэчы, гэты ўраджэнец горада Бабруйска заваяваў на Паралімпіядзе чатыры залатыя і адну срэбную ўзнагароду. Медаль Ігара зойме ганаровае месца на спартыўнай вітрыне музея разам з бронзай Солт-Лэйк-Сіці і золатам Ванкувера фрыстайліста Аляксея Грышына. З улікам свежых паступленняў колькасць медалёў на спартыўнай секцыі музея павялічылася да дзесяці. Усе экспанаты — арыгінальныя.



*Кубак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па хакеі.*

Прадстаўнікі СМІ змаглі пазнаёміцца з унікальным кубкам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які штогод уручаюць камандзе-пераможцы адкрытага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па хакеі. Некаторы час кубак знаходзіўся ў хакеістаў жлобінскай каманды «Металург», якая перамагла ў 2012 годзе. Потым ганаровы прыз адправілі на завод-вытворцу ў Гомель, дзе на ім была змешчана новая таблічка з імёнамі спартсменаў-жлобінцаў. Кубак мае тры ярусы і разлічаны на 33 гады. З Гомеля ён «выправіўся» ў Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, дзе будзе знаходзіцца да наступнага чэмпіянату.

Таксама былі прадэманстраваны парадны мужчынскі гарнітур членаў беларускай дэлегацыі на зімовых Алімпійскіх гульнях-2010 у канадскім Ванкуверы, узоры камплектаў адзення спартсменаў, якія бралі ўдзел у алімпіядах у Сіднеі, Афінах, Турыне і Пекіне. Гэтыя рэчы знаходзяцца ў музейных фондах, таму наведвальнікі іх дагэтуль не бачылі.

— Практычна ўсе прадстаўленыя экспанаты будуць змешчаны ў дзеючую экспазіцыю, таму кожны жадаючы зможа з імі пазнаёміцца, — зазначыў Сяргей Ісаковіч.

## *Канферэнцыі*

# Па слядах вогнепаклоннікаў

Міжнародная археалагічная канферэнцыя «Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў у міжрэччы Віслы і Дняпра» прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Гэты форум сабраў больш як тры дзясяткі спецыялістаў з навукова-даследчых устаноў, універсітэтаў і музеяў Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы ды Ірака.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

Першапачаткова меркавалася, што прадстаўнічы навуковы сход будзе прысвечаны 75-гадоваму юбілею найвыдатнейшага даследчыка археалагічных помнікаў каменнага і бронзавага вякоў паўночнай і заходняй Беларусі, пісьменніка Міхася Чарняўскага. На жаль, з-за цяжкай хваробы Міхась Міхайлавіч не дажыў да свайго дня народзінаў. Але да апошніх дзён ён працаваў над новымі тэкстамі — уласнымі і сваіх вучняў. Зрэшты, у сучаснай айчыннай археалогіі каменнага і бронзавага вякоў бадай што і няма такога даследчыка, каго б нельга было назваць яго вучнем.

Падчас канферэнцыі абмяркоўвалася шырокае кола навуковых праблем: ад вузкапрафесійных пытанняў датавання таго ці іншага помніка, тыпу старажытных жытлаў ці артэфактаў да больш складаных, кшталту вызначэння даты існавання пэўных археалагічных культур, рэканструкцыі старажытных этнічных і сацыяльных працэсаў, а таксама ідэалагічных уяўленняў нашых далёкіх продкаў. Даклады выклікалі актыўную дыскусію, у якой бралі ўдзел практычна ўсе даследчыкі.



*Вадзім Лакіза, намеснік дырэктара па навуцы Інстытута гісторыі НАН Беларусі.*

У межах канферэнцыі была праведзена міні-выстаўка «У краі паляўнічых, рыбаловаў і збіральнікаў», падрыхтаваная супрацоўнікамі Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Археалагічныя матэрыялы, прадстаўленыя на ёй, адлюстроўваюць гаспадарчыя заняткі насельніцтва Паўночнай Беларусі ад сярэдняга неаліту да ранняга бронзавага веку. Усе гэтыя артэфакты былі знойдзены падчас археалагічных раскопак стаянак на тэрыторыі Крывінскага тарфяніка.

Крывінскі тарфянік, размешчаны на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў Віцебскай вобласці — гэта незвычайны куток Паўночнай Беларусі, дзе на зусім невялікай тэрыторыі знаходзіцца адразу 10 паселішчаў часоў неаліту — ранняга бронзавага веку. Асноўнымі заняткамі іх жыхароў былі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Хаткі мясціліся на ўзбярэжжы вялікага возера, у якое ўпадала некалькі рачулак і ручаёў, а навокал на дзясяткі кіламетраў раскінуліся неабсяжныя лясы. А яшчэ жыхары ўзбярэжжа старажытнага Крывінскага возера ляпілі гаршкі, майстравалі з рогу, косткі і каменю прылады працы, маліліся сваім багам...

Вось ужо больш як 80 гадоў археолагі вывучаюць Крывінскі тарфянік. Выяўленыя падчас раскопак аскепкі старажытнага посуду і рэшткі прылад працы з цягам часу сталі складвацца ў таямнічы калейдаскоп, у якім праступаюць постаці продкаў, велічных у сваіх штодзённых клопатах і турботах. Не дзіўна, што гэтыя постаці былі адлюстраваныя Міхасём Міхайлавічам не толькі ў навуковых артыкулах, але і ў навукова-папулярных і мастацкіх кнігах.

Канферэнцыя завяршылася «круглым сталом» «Неалітычная кераміка Беларусі», падчас якога адбылася дэманстрацыя археалагічных матэрыялаў з найноўшых даследаванняў беларускіх археолагаў.

Па выніках канферэнцыі быў выдадзены зборнік тэзісаў, а да канца года мяркуецца апублікаваць паўнавартасны том матэрыялаў.

# Уладар пярсцёнкаў

**Ці дарэчы сёння насіць бранзалеты, фібулы, кальe, выробленыя па тэхналогіях, якія прымяняліся ажно ў XI — XIV стагоддзях? Можна, сцвярджае Аляксей Вярбіцкі, народны майстар Беларусі, член Беларускага саюза народных майстроў, аўтар незвычайных упрыгажэнняў, якія прадстаўлены на выстаўцы ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах — філіяле Нацыянальнага музея Рэспублікі Беларусь.**



**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара і прадастаўленае Аляксеем Вярбіцкім**



*Аляксей Вярбіцкі.*

У дзяцінстве мы атрымліваем шмат уражанняў, якія часам ператвараюцца ў мару, а потым і ў справу ўсяго жыцця. Так здарылася і з Аляксеем Вярбіцкім: яшчэ вучнем яму падабалася майстраваць штосьці са звычайнага дроту.

— Спачатку «нараджаліся» розныя бірулькі, ланцужкі, зразумела, выкананыя на дылетанцкім узроўні, — распавёў майстар. — На ўсё жыццё мне запомніўся адкрыты ўрок, які праводзіла ў 1999 годзе любімая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ніна Васільеўна Хамічэнка. Тэмай для яго быў абраны крыж Еўфрасінні Полацкай. Якраз за некалькі гадоў да гэтага брэсцкі мастак і майстар-ювелір Мікалай Кузьміч узнавіў згублены сімвал Беларусі.

Настаўніца падрыхтавала вялікія пано з выявамі аднаўленага крыжа. Верагодна, менавіта расповед пра значны для беларусаў старажытны духоўны сімвал і прыгожыя карцінкі так уразілі падлетка. Для Аляксея было дзіўным, што яго зямляк настолькі па-майстэрску паўтарыў працу Лазара Богшы з Полацка і што сёння гэтую цудоўную рэч можна ўбачыць не толькі на малюнку.

Асабліва ўзрушыла тая акалічнасць, што Мікалай Кузьміч змог вярнуць з небыцця тэхніку вырабу візантыйскай эмалі, а на яе даследаванне і адраджэнне спатрэбіліся гады. Наколькі карпатлівая і ўпартая праца майстра-ювеліра! Менавіта тады з'явілася мара стаць майстрам, які стварае, узнаўляе і спазнае прыгажосць. Але так склалася, што пасля школы хлопец паступіў у каледж, зусім не звязаны з ювелірнай справай, таму створанае Мікалаем Кузьмічом заставалася недасяжнай марай.

Прафесійны і творчы шлях Аляксея Вярбіцкага ў ювелірнай справе пачаўся ў 2004 годзе з маленькай майстэрні па перапрацоўцы срэбра. Доўгі час проста дапамагаў майстру, займаўся «чорнай» працай і вучыўся, стоячы за спінай настаўніка. За паўтара года набыў неабходную кваліфікацыю і абраў самастойны шлях. Працаваў з каштоўнымі металамі, выконваў індывідуальныя заказы.

Воляю лёсу ў 2004 годзе выпадкова пазнаёміўся са сваім кумірам, знакамітым майстрам эмальернага мастацтва. Імкненне і мара маладога чалавека зразумець усе таямніцы і сакрэты эмальернай справы прывялі Аляксея ў майстэрню Мікалая Пятровіча, які не адмовіўся дапамагчы спасцігнуць сакрэты не толькі старажытнай тэхналогіі перагародкавай візантыйскай эмалі, але і мастацтва дробнай пластыкі. Сёння Аляксея Вярбіцкага смела можна назваць вучнем Мікалая Кузьміча. Дарэчы, адзіным.

— Да старых тэхналогій прыйшоў выпадкова, — дзеліцца Аляксей. — Неяк у рукі трапіў бранзалет, які знайшлі археолагі падчас раскопак. Вельмі ўразілі адначасовая прастата форм і прыгажосць. Звярнуўся да літаратуры па ювелірных вырабах XI — XIV стагоддзяў і прыйшоў да высновы, што трэба паказаць людзям гэтыя дзіўныя вырабы ва ўзноўленым выглядзе. Чаму некаторыя рэчы, тыя ж скроневыя кольцы, фібулы (металічныя засцежкі для адзення, якія адначасова служаць і ўпрыгажэннем), не выкарыстоўваць сёння? Некаторыя інтэрпрэтацыі фібул і бранзалетаў цікавыя і цяпер — найперш сваёй забытай навізной. А яшчэ праз такія вось вырабы мы можам спазнаваць гісторыю.

Вядома, такія рарытэты ёсць у музеях, але цяпер падобныя ўпрыгажэнні можна заказаць у майстра. Часцей замаўляюць бранзалеты, фібулы для плашчоў, хустак, шаляў. На фібулах можна падвешваць розныя ланцужкі — адным словам, шырокае поле дзейнасці для модніц. Усе гэтыя рэчы Аляксей вырабляе ўручную па тэхналогіях, якія існавалі ў даўніну, карыстаючыся ў асноўным малатком і агнём. Выстаўка ў Раўбічах не з'яўляецца зборам абсалютных копій. Асноўная ідэя аўтара — інтэрпрэтацыя форм і тэхналогіі апрацоўкі металу, а таксама аднаўленне археалагічных узораў сярэдневяковых вырабаў.

— На гэтай выстаўцы мы бачым ідэнтычныя музейным экспанатам прадметы, якія карысталіся вялікай папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва ў тыя далёкія часы, — зазначае мастацтвазнаўца і куратар выстаўкі Святлана Крэль. — Гэта паўторы рарытэтаў плюс аўтарская інтэрпрэтацыя. Вось майстар робіць бранзалет і разумее, што тут «просіцца» менавіта такі элемент, і дадае яго — атрымліваецца вельмі цікавы падыход з эстэтычнага пункту гледжання. Гэта не экспазіцыя гістарычных рэчаў, гэта дэманстрацыя мастацкіх твораў — дробнай пластыкі. Чым яшчэ прываблівае выстаўка? Тым, што дасюль ніхто такога не рабіў. Чым цікавы чалавек, калі ён у душы мастак? Жаданнем паказаць іншым свае работы, зрабіць штосьці такое, на што мы звярнулі б увагу і пашырылі свае веды. Людзі адыходзяць у нябыт, а рэчы застаюцца і могуць «гаварыць».



*Ювелірныя ўпрыгажэнні брэсцкага майстра.*

*Версіі*

# Штрых да псеўданіма Багушэвіча

**Францішак Багушэвіч меў некалькі псеўданімаў і крыптонімаў. Адны з іх нам больш-менш вядомыя. Прынамсі, свой зборнік «Дудка беларуская» аўтар выдаў у 1891 годзе пад псеўданімам Мацей Бурачок.**

**Уладзя СОДАЛЬ-САДЭЛЬСКІ**

Хто такі Мацей, ведаюць цяпер многія, бо гэта адзін са святых праведнікаў. А вось чаму Ф. В. (крыптонім Ф. Багушэвіча) ахрысціў сябе Бурачком, таксама нібыта было зразумела. Бурачкі былі даступнай для сялян агароднінай. Лічыцца, што іх спажыванне абнаўляе кроў чалавека, доўжыць яго век.

А нядаўна ў адной духоўнай радыёпраграме пачуў: да распаўсюджвання штучных падсвечнікаў у касцёлах і цэрквах карысталіся падсвечнікамі з... бурачкоў! У маладых акруглых караняплодах выразалі або выкручвалі невялікую адтуліну і ставілі ў яе свечку. Пачуўшы пра гэта, зразумеў, чаму Францішак Багушэвіч абраў сабе такі псеўданім. Гэтак і ўяўляецца Ф. В. у святыні з незвычайным для нашага часу падсвечнікам, у якім міргае запаленая свечка, што асвятляе творцу шлях да яго народа.

*Творчы свет*

# Ле-е-ета!

**У выставачную залу Музея гісторыі і культуры горада Наваполацка прыйшло сапраўднае лета: расцвілі півоні, рамонкі, хрызантэмы, астры і шматлікія ружы, вышытыя рознакаляровымі стужкамі. Аўтар прадстаўленых работ — Вольга Задоранка.**

**Вера ШУШКО,**
**фота аўтара**



*«Вянок з макамі».*

Вышыўкай стужкамі Вольга пачала займацца тры гады таму. Калі ўпершыню пазнаёмілася з гэтым вытанчаным рамяством, падумала, што паўтарыць такое немагчыма. Але паспрабаваць не пабаялася. І прачнуўся талент. Спачатку ствapала маленькія сувеніры, упрыгажэнні, потым перайшла да больш значных вырабаў. Паступова ўскладняла кампазіцыйныя і колеравыя рашэнні.

Міжнародная асацыяцыя індустрыі прызнала вышыўку самым папулярным захапленнем сучаснай жанчыны. Яна бярэ пачатак у антычнасці, а найбольшае развіццё атрымала ў эпоху ракако ў Францыі, пры каралю Людовіку XV. Цяпер найбольш распаўсюджана ў Англіі, Францыі ды Італіі. На тэрыторыі былога СССР вышыўка стужкамі, забытая пасля Другой сусветнай вайны, паступова адраджаецца. І ў першую чаргу дзякуючы энтузіястам — такім, як Вольга Задоранка. Распрацоўваючы асабістыя тэмы, яна ўпэўнена сумяшчае ў работах атласныя і шаўковыя стужкі з беларускім ільном.

Мова кветак зразумелая нямногім. Але хто спазнае яе, можа дакрануцца да таямніц прыроды і адчуць сябе па-сапраўднаму шчаслівым.

# Зазірнуць у сярэднявечча

**Бажэна СТРОК**

Выстаўка «Даспехі і зброя» адкрылася ў Бягомльскім музеі народнай славы. У экспазіцыі прадстаўлены мадэлі абарончай і наступальнай зброі X — XVI стст., якая выкарыстоўвалася на тэрыторыі Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. Тут можна ўбачыць рыцарскія даспехі, мячы, булавы, шлемы, кірасы і г. д.

Экспанаты прадставіў Народны тэатр гістарычнага касцюма «Полацкі звяз», які існуе з 2002 года. Майстры клуба мадэлююць сярэднявечную зброю, ствараюць прадметы побыту і адзення далёкіх часоў, бяруць актыўны ўдзел у фэстах сярэднявечнай культуры, арганізуюць шматлікія выстаўкі.

Яшчэ адзін кірунак дзейнасці «Полацкага звязу» — тэатральна-гістарычныя відовішчы, спектаклі і харэаграфічныя мініяцюры ў сярэднявечным стылі. За гады існавання тэатра было пастаўлена пяць спектакляў, арганізавана тры фэсты сярэднявечнай культуры ў Полацку. Клуб добра вядомы ў Беларусі, а таксама ў Расіі, Украіне, Літве, Латвіі, Польшчы, Чэхіі ды Славакіі.

*Духоўныя абсягі*

# Шырокія памкненні Зашыр'я

**Сяргей АНІШЧЫК**

Чарговае мерапрыемства ў рамках Рэспубліканскай духоўна-асветніцкай праграмы «Сям'я — Адзінства — Айчына» праходзіла ў пасёлку Зашыр'е Ельскага раёна. Гэтая праграма нараджана сумесным імкненнем царкоўных, дзяржаўных структур і шырокай грамадскасці пераламаць негатыўныя тэндэнцыі ў галіне дэмаграфічнага развіцця краіны, спрыяць адраджэнню высокіх духоўных традыцый. У гэтых кірунках шмат робіцца ў самім Зашыр'і, найперш дзякуючы старшыні кааператыўнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Саўгас «Камуніст» Рыгору Бабчанку.

Рыгор Уладзіміравіч, дарэчы, яшчэ і паэт. Яго кніга мае сімвалічную назву «Асалода». Асалода ад любімай працы, дружнай сям'і, напісаных вершаў.

Пра тое, як і чым жыве Р. Бабчанок, гаварылі на прэзентацыі распарадчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата, старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Бацькі і настаўнікі — за адраджэнне праваслаўнай адукацыі» Уладзімір Грозаў, член праўлення Міжнароднага руху «Сям'я — Адзінства — Айчына» Алесь Марціновіч, сябры і паплечнікі Р. Бабчанка.

# Народныя строі з моды не выходзяць

**Выстаўка мастачкі па касцюмах Наталлі Смаляк «Невычэрпная крыніца» праходзіць у сталічнай галерэі «Універсітэт культуры». Экспазіцыя складаецца з сучасных сцэнічных касцюмаў, створаных па матывах беларускіх народных святочных і вясельных строяў канца XIX — пачатку XX стагоддзя.**

Алеся АРЫЦКАЯ,
фота Кастуся Дробава

Выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, сябра Беларускага саюза мастакоў, лаўрэат і дыпламант рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў ды фестываляў, удзельніца больш як 30 мастацкіх выставак, што праходзілі ў Беларусі, Польшчы, Літве, аўтар трох персанальных праектаў, а таксама работ, запатрабаваных шматлікімі творчымі калектывамі ў Беларусі, Польшчы, Расіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Малдове, Казахстане, Узбекістане, Н. Смаляк ўжо не адзін год імкнецца да пераасэнсавання народных традыцый праз індывідуальнае аўтарскае бачанне. Мастачка натхняецца эстэтыкай народнага касцюма для стварэння новых вобразных структур, у якіх традыцыя «счытваецца» не літаральна, а праз выкарыстанне традыцыйных тэхнік, фактур, прыёмаў аздаблення і г. д. У выніку ўзнікаюць яркія і выразныя сцэнічныя вобразы, выкананыя ў арыгінальнай аўтарскай манеры — з тонкай прапрацоўкай колера-тонавых адценняў, далікатным выкарыстаннем дэкору, гарманічнымі суаднośінамі аб'ёму і формы.

— Выстаўка тэматычная, і, хаця матэрыял не аўтэнтычны, пераапрацаваны, я імкнулася захаваць усе адметнасці народных вобразаў, — зазначае Наталля. — Наогул, ад народнага беларускага касцюма не схаваешся: харэаграфічных і вакальных калектываў шмат, яны ўвесь час замаўляюць у мяне строі. Працавала я і з сучасным касцюмам, цяпер таксама не адмаўляюся, калі прадпрыемствы прапаноўваюць супрацоўніцтва, але больш за ўсё ў мяне замоў для сцэны. Тут можна па-сапраўднаму праявіць сябе ў мастацкім плане. Для стварэння штодзённага адзення неабходны іншы — дызайнерскі — падыход.

Трэба адзначыць, што ў 2010 годзе ў галерэі «Універсітэт культуры» ўжо праходзіла выстаўка калекцыі мастачкі «Шляхецкі скарб» па матывах касцюмаў XVI — XVIII стагоддзяў, якая выклікала вялікую цікавасць як з боку наведвальнікаў, так і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Сёння ж на выстаўцы «Невычэрпная крыніца» можна пабачыць дзве калекцыі. Першую, «Адбітак», Н. Смаляк пачала распрацоўваць у 1998 годзе на аснове тэхнікі ручнога рамізнага ткацтва, аднак калекцыя ўвесь час папаўняецца. На дадзены момант аўтарка прадставіла тры новыя строі, якія раней не экспанаваліся: «Палескі матыў», «У засені лесу» і «Сінь нябёсаў». Тканіна выраблена на ручных станках. Хаця адзенне стылізаванае і колеры зменены, але аздабленне распрацавана па аўтэнтычным арнаменце пэўных рэгіёнаў. Да таго ж, кожны касцюм мае свой мастацкі вобраз. Напрыклад, «Ніва залатая» — нібы палітра залатога поля, на якім каласуе спелае жыта. «Ранішнія росы» выкананы ў ружовых тонах, бо, сапраўды, на золку росы ружовыя. «Палескі матыў» — гэта вобраз палескіх лясоў, менавіта на такое ўспрыманне і працуе зялёны колер.



Калекцыя святочных і вясельных строяў «Паляцела птушачка».



Сцэнічны касцюм «У засені лесу». Калекцыя «Адбітак».

— Другая калекцыя, «Паляцела птушачка», выканана на аснове вясельных строяў Палесся, Цэнтральнай Беларусі і Падняпроўя, — распавядае Н. Смаляк. — Канечне, усё адзенне стылізаванае, выкарыстаны сучасны сцэнічны падыход, сучасныя тканіны: атлас, аксаміт, шыфон, машынная вышыўка. Стылізаваныя і галаўныя ўборы: аўтэнтычныя ўпрыгожваліся жывымі кветачкамі, пасля вяселля іх засушвалі і потым усё жыццё захоўвалі. На маіх жа ўборах кветкі выкананыя з тканіны. Аднак калі пагледзіце кнігі па беларускім народным касцюме — адразу пазнаеце вобразы, якія тут прадстаўлены. Наогул, я чалавек горада, але нішто не ўражвае мяне так, як беларуская прырода: менавіта яна натхняе на стварэнне новых калекцый.

# Ты чуеш Вохаў!

**У беларускай міфалогіі ёсць адметны персанаж, якога завуць Вох. Гэты маленькі чалавечак з доўгай барадой жыве пад зямлёю. Калі ж ён пачуе, як нейкі бядак уздыхае: «Ох!», то выходзіць і пытаецца: «Чаго патрабуеш?» Чалавек, які не спалохаецца Воха і выкажа сваё жаданне, атрымае, што хоча. Музыкі з фольк-панк-гурта «Кашлаты Вох» пад зямлёю не жывуць, ды і жаданні не выконваюць, хіба толькі музычныя. Вось якраз сёння Вохі парадавалі сваіх прыхільнікаў рэлізам першага студыйнага альбома, які атрымаў назву «Пазаўчора». Ён запісаны на сталічнай студыі «Осмас», а вокладку аформіла маладая мастачка Васіліса Паляніна-Календа.**

Марына ВЕСЯЛУХА

Аматарам беларускай музыкі гурт «Кашлаты Вох» вядомы па выступленнях на «Дударскіх фэстах», канцэртах у мінскім клубе «Салтайм», удзеле ў розных фестывалях. Іх сінглы выходзілі як у якасці інтэрнэт-рэлізаў, так і на дысках. Але рэліз альбома «Пазаўчора», безумоўна, займае адметнае месца ў біяграфіі гурта. «Гэта ў першую чаргу магчымасць прадставіць вынікі творчай дзейнасці калектыву за апошнія два гады, а таксама нагода распачаць запіс новага матэрыялу для другога альбома», — сцвярджае музыка гурта Вячка Красулін.

Часам, калі мне замаўляюць артыкул пра нейкі музычны праект, прапаноўваюць абраць для матэрыялу форму «адзін дзень з гуртом». У выпадку з «Кашлатым Вохам» гэтая форма можа быць трансфармавана ў «адзін альбом з гуртом». Так, мне пашанцавала, і я стала сведкай запісу. Не буду раскрываць усіх сакрэтаў, аднак некаторыя моманты прыгадаю.

Вось дудар і вакаліст Вячка Красулін запісвае партыю дуды для трэка «Крывавы сок», уступнай кампазіцыі з альбома. Мы з Васілём Саковічам, музыкам гурта (ён грае і на дудзе, і на мандаліне, і на гітары, і на блок-флейце) сядзім на канапе ў студыі і ўважліва слухаем. І тут Васіль па-змоўніцку кажа: «А ты ведаеш, што яму нельга памыляцца, трэба адразу запісаць усю партыю? Без перапынку!» — «Ого!» — здзіўляюся я. Мы яшчэ больш насцярожана ўслухоўваемся ў гукі дуды. Усё атрымліваецца добра. Калі Вячка выходзіць з іншага пакоя, Васіль жартуе: «Усё кепска! Перапісвай!» Дарэчы, той жа дубль і можна пачуць у альбоме.

А вось гітарыст Пеця Слуцкі запісвае імправізацыю ў сваім любімым блюзавым стылі для інструментальнай кампазіцыі «Пазаўчора»... Назар Грабёнкін, віртуозны бубнач (на жаль, ён больш не выступае з Вохамі), жартуе: «А давайце перапішам барабаны на ўсе песні!» Басіст Віталь Касавец — як заўсёды, заклапочаны справамі — за адзін раз запісвае ўсе басовыя партыі...

У працэсе свайго развіцця гурт «Кашлаты Вох» трансфармаваўся з цалкам акустычнага калектыву, калі музыкі гралі народныя мелодыі, у панк, фольк-панк ці нават, як часам іх называюць, псіхафольк-праект. Хлопцы такіх азначэнняў не адмаўляюць і самі сцвярджаюць, што ў іх музыцы ёсць усе гэтыя рысы. І вельмі радуюцца, калі іх стыль называюць асаблівым і кажуць: «Ну хто яшчэ ў нас у Беларусі грае так, як вы? Ніхто! Вось і стыль у вас таксама свой — кашлаты-вох». Пагаджуся з гэтым выказваннем, бо ў кампазіцыях гурта ўдала спалучаюцца і медытатыўныя дудовыя, і флейтавыя партыі, і арыгінальныя гітарныя сола, і досыць экзатычнае для нашай сцэны гучанне мандаліны. У комплексе з нязвыклай для многіх слухачоў манерай выканання вакаліста і яго адметнымі, калі не сказаць нават эксцэнтрычнымі, паводзінамі на сцэне атрымліваецца ўвогуле псіхадэлічная сумесь. Але сумесь цікавая, яркая, жывая!

Аднак вернемся да альбома «Пазаўчора». Усе кампазіцыі, што ўвайшлі ў яго, таксама жывыя, розныя, са сваім характарам і ідэяй. Гэта народныя песні, якія ў вохаўскім прачытанні здабылі новае гучанне, — «Ой, цёмна на дварэ», «Дунаю», «Брат сястру хоча забіці» (дарэчы, мелодыя гэтай песні — ірландская полька, а словы — беларускія народныя; партыю сястры спецыяльна для альбома запісала Эльвіра Стальмашук, вакалістка мінска-драгічынскага фольк-рок-гурта «Омут»), «Удавец»; аўтарскія: містычная «13», постмадэрновая «Заход» (запісаная ўжо з удзелам новага бубнача гурта Сяргея Сеўрука), тэматычна-актуальная «Рэклама» (словы да яе напісаў дудар, лідар гуртоў *Testamentum Terrae* і *Pawa* Юрась Панкевіч); інструментальныя: медытатыўнае інтра «Крывавы сок», лірычная «Пазаўчора»; а таксама кавер на песню «Машыны» гурта «Нейра Дзюбель». У цэлым, ёсць што паслухаць.

У бліжэйшых планах гурта — выступленне ў фінале беларускага адбору міжнароднага конкурсу маладых каманд *Emergenza*, а таксама запіс наступнага альбома. Дарэчы, плануецца і другі па ліку сольны канцэрт — прэзентацыя дыска. Таму слухайце альбом і сачыце за афішамі.




**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2762
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.03.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1023
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686